

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

bielarus@bazahq.org

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 575 Сьнежань 2010 г.
Год выданьня 61


## Шаноўныя чытачы!

Зьмест гэтага апошняга ў бягучым 2010 годзе нумару газэты "Беларус" адлюстроўвае багатую палітру беларускага жыцьця, як ў замежжы так і на Бацькаўшчыне.
Найперш – гэта перадсьвяточны выпуск, у сьнежні прыходзяць да нас Каляды, а потым і Новы год. Мы падрыхтавалі для вас цёплыя сяброўскія віншаваньні і пажаданьні.
Сёлета напрыканцы лістапада споўнілася 90-гадоў адметнай падзеі навейшай беларускай гісторыі – Слуцкаму збройнаму чыну, слаўная гадавіна была ўрачыста адзначана як у Беларусі, так і ў беларускім замежжы, пра гэта можаце прачытаць на старонках газэты.
У другой палове сьнежня Беларусь чакае важная унутрыпалітычная падзея - пройдуць прэзыдэнцкія выбары, артыкулы, інфармацыі на гэтую тэму вы таксама знойдзеце ў газэце.
Сплываючы год быў адзначаны адметнымі падзеямі ў жыцьці беларусаў Амэрыкі.
60- гадоў споўнілася нашаму выданьню і мы вырашылі ў гэтым нумары надзяліць увагу гэтаму юбілею, бо з газэтаю "Беларус" расьлі і выхоўваліся некалькі пакаленьняў беларускіх эмігрантаў. Паваенная эміграцыя ад самага пачатку свайго выгнаньня на чужыну старалася мець свае друкаваныя ворганы, якія лучылі беларускую супольнасьць ў адзінае цэлае. Беларускія выданьні выходзілі яшчэ ў лягерах перамешчаных асобаў у Нямеччыне, дзе жылі выгнанцы з Беларусі.
На новым мейсцы свайго пражываньня – ў Амэрыцы, куды перасялілася настала значная частка беларускіх эмігрантаў з паваеннай Нямеччыны, яны ў першую чаргу заклалі сваю газэту - "Беларус", які выйшаў у сьвет у верасьні 1950 году.
Не надта спадзяваліся тады, што газэце будзе наканавана доўгае і плённае жыцьцё, але рабілі ўсё магчымае, каб менавіта так і сталася. Ішлі гады, мяняліся пакаленьні, але эстафета выданьня падхоплівалася новымі людзьмі і іх стараньнямі газэта дажыла да сёньняшняга часу. У нашым сьвяточным нумары мы згадваем усіх адказных рэдактараў, пад чыім кіраўніцтвам у розныя часы рыхтавалася газэта. Выказваем шчырую падзяку ўсім працаўнікам газэты і схіляем галовы перад памяцьцю тых, каго ўжо няма з намі. Падзяка належыцца таксама ўсім падпісчыкам і чытачам, аўтарам публікацый, дзякуючы фінансавай і творчай падтрымцы якіх газэта магла выходзіць у сьвет. Некаторыя з іх маюць слова на старонках гэтага выпуску.
Таксама 60 гадоў прайшло з таго часу, калі ў Нью-Ёрку, дзякуючы высілкам паваеннай беларускай эміграцыі, распачала сваю дзейнасьць Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная царква. Гэта адметная падзея не толькі ў жыцьці беларускага замежжа , але і цэлай беларускай нацыі, для якой незалежнасьць царкоўная і самастойнасьць дзяржаўная спалучыліся ў адзіную змагарную плынь. Юбілей быў урачыста адзначаны ў Саборы Сьв.Кірылы Тураўскага, прапануем вам інфармацыю пра сьвяткаваньне.
Не маглі мы не адзначыць і юбілей першай грамадзкай арганізацыі ў Беларусі, якая занялася справамі беларускай эміграцыі ў сьвеце і цягам 20 гадоў адказна вядзе гэтую працу. Згуртаваньню беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" мы таксама прысьвячаем частку старонак нашага выданьня.
У выпуску вы знойдзеце інфармацыі пра навіны з жыцьця беларускіх арганізацыяў як ў ЗША, так і ў іншых краінах сьвету.
Падаем пакуль што невялічкую для пачатку старонку для дзяцей, якая прысьвечана Калядам. Мяркуем далей пашыраць абём і рабіць яе карыснай для нашых маленькіх чытачоў і іх бацькоў
Гэты выпуск газэты рыхтавала новая Рэдакцыйная калегія, якая складаецца з людзей, чые імёны вы тут знойдзеце. Ад яе імя выказваем падзяку за адказную працу нашаму папярэдніку сп. Марату Клакоцкаму. Ён пераняў выданьне газэты пасьля крызыснай сытуацыі, у якую трапіла выданьне ў 2000 годзе і цягам двух гадоў не выходзіла да чытачоў. Сп. Клакоцкі адказна ставіўся да свайго рэдактарскага абавязку і рэгулярна выдаваў газэту цягам васьмі гадоў на высокім узроўні. Перадаючы рэдакцыю спадкаемцам, сп. Клакоцкі аказаў нам неабходную дапамогу ў авалоданьні новымі абавязкамі.
Новая Рэдакцыйная калегія, склад якой будзе папаўняцца залежна ад патрэбаў, будзе рабіць усё магчымае, каб выданьне захавала свае ўсім знаёмае аблічча і традыцыі. У той жа час пастараемся наблізіць яго да сучасных рэаліяў беларускага жыцьця ў Амэрыцы, зьвязваць новыя рубрыкі, маем на мэце паспрабаваць выдаваць рэклямны дадатак да газэты. Хацелі б таксама атрымаць ад нашых чытачоў прапановы і пажаданьні, якою вы хочаце бачыць сваю газэту. Спадзяемся на вашую дапамогу і падтрымку, на плённае супрацоўніцтва з усімі, каму неабыякавы далейшы лёс "Беларуса".

*Адказны рэдактар*
*Ганна Сурмач*

## Дарагія суродзічы!



У хрысьціянскім сьвеце няма болей утульнага, прыемнага, поўнага добрых пачуцьцяў сьвята як Каляды. Новае жыцьцё Божага Дзіцяткі памагае нам забыцца пра ўсе нядолі і беды нашай штодзённасьці і напаўняе сэрца надзеяй на лепшае заўтра, на зьдзяйсьненьне ўсіх нашых мараў і летуценьняў. З любоўю злучаемся думкамі з сябрамі і крэўнымі, якія ў цяперашнім сьвеце часта ад нас вельмі далёка. Прыпамінаем усіх тых цудоўных людзей, якіх нам было дадзена спаткаць на нашым жыцьцёвым шляху, тых, каго дзеля адлегласьці не можам абняць у гэтыя Сьвятыя дні.

З глыбіні сэрца віншую вас і зычу цёпла і радасна правесьці гэтыя Сьвяты Божага Нараджэньня. Прашу Бога, каб даў нам усім шчасьце – гэта сапраўды Божы дар - заўсёды адчуваць сваю прыналежнасьць да нашага цудоўнага краю і сілу прадаўжаць змаганьне за волю і лепшую долю беларускага народу.

Дык вясёлых Сьвятаў, дарагія браты і сёстры!

**Жыве Беларусь!**

*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

## Дарагія сябры Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (БАЗА) і ўсе чытачы газэты "Беларус"!

Віншуем вас і вашых блізкіх з надыходзячымі Каляднымі сьвятамі і Новым 2011 годам. Жадаем вам прыемна правесьці сьвяты ў сямейным коле, або ў цёплай сяброўскай атмасфэры на імпрэзах Аддзелаў і Гурткоў БАЗА.

*Галоўная управа БАЗА*

## Парафіяльная Рада Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага БАПЦ ў Нью-Ёрку

Віншуе вернікаў і ўсіх беларусаў з надыходзячымі КаляднымiСьвятамі і Новым годам.
Жадаем прыемна адзначыць Сьвята Хрыстовага Нараджэньне сярод родных і блізкіх, сяброў і калегаў.
Няхай Бог пашле вам і вашым семьям супакой і дабрабыт, моц духу і радасьць надзеі, веру ў лепшую будучыню для сябе і для нашай Бацькаўшчыны-Беларусі!

**Шчасьлівых Калядаў!**

## Рэдакцыя газэты "Беларус"

Таксама віншуе сваіх чытачоў з надыходзячымі Калядамі і Новым годам. Жадаем вам, дарагія сябры, добрага сьвяточнага настрою, спакойнага, забясьпечанага жыцьця і непахіснай гатовасьці займацца беларускімі справамі, каб цьвёрда трымаць нашу прысутнасьць у замежжы і прэзэнтаваць нашую культуру перад іншымі народамі.

# На Случчыне адзначылі 90 гадоў славутага паўстаньня

90-годзьдзю Слуцкага збройнага чыну прысьвечана адмысловая вандроўка ў Слуцкім раёне. Сюды зь Менску на двух аўтобусах прыехалі амаль стопрадстаўнікоў беларускіх нацыянал-дэмакратычных арганізацый. Вандроўка праходзіла па маршруце Грозава - Семежава - Вызна (Чырвоная Слабада) - Слуцк.




У гэтых мясьцінах 90 гадоў таму некалькі тысяч беларускіх паўстанцаў змагаліся з атрадамі Чырвонай арміі, якія значна перавышалі па колькасьці і узроўні ўзбраеньня змагароў за незалежнасьць БНР. Баі доўжыліся болей за месяц, сотні паўстанцаў, якія змагаліся пад бел-чырвона-белымі сьцягамі загінулі, частка з баямі адышла на тэрыторыю Польшчы.

Сярод удзельнікаў акцыі вядомыя актывісты, прадстаўнікі маладзёвых дэмакратычных арганізацый. Людзі ўскладаюць букеты кветак зь бел-чырвона-белымі сьцяжкамі на месцах пахаваньня паўстанцаў і да крыжоў памяці, якімі адзначаны месцы баёў. Падчас кожнага ушанаваньня гучаць прамовы, а таксама песьні слуцкіх ваяроў і гімн «Магутны Божа».

*Паводле Радыё Свабода 27.11.2010*

# У ТБК Літвы

У апошнюю суботу лістапада ў Таварыстве Беларускай Культуры Летувы ўшанавалі памяць змагароў за незалежнасьць Беларусі – удзельнікаў Слуцкага паўстаньня.

Пра гісторыю Слуцкага Збройнага Чыну расказаў Хведар Нюнька. Ён зачытаў і віншаваньне ад Прэзідэнта Рады БНР Івонкі Сурвіллы.

У лістападзе споўнілася 40 гадоў з дня сьмерці Адольфа Клімовіча. Крысьціна Балаховіч зачытала ліст Мар,яна Пецюкевіча да Зоські Верас пра інжынера А.Клімовіча, які даслала ў таварыства з Рыму ягоная дачка Марыля Пецюкевіч. Гэты ліст агучаны ўпершыню.

У гэты ж дзень былі адзначаны і 80-я ўгодкі з дня нараджэньня Уладзіміра Караткевіча.Пра ягоную творчасьць расказала Леакадзія Мілаш.

Таксама адбылася прэзентацыя апошняй кнігі Зянона Пазьняка "Цяжкі час-Працяг", агляд зрабіла Крысьціна Балаховіч.


Выступае Крысьціна Балаховіч

Напрыканцы быў паказаны відэафільм пра сьвяткаваньне ўгодкаў Слуцкага Збройнага Чыну ў 2007 годзе, даклад рабіў Валера Місюк. У наступным годзе споўніцца 3 гады, як ён трагічна загінуў. Аб'яўлены збор сродкаў на помнік В.Місюку.

*Паводле інфармацыі Леакадзіі Мілаш, Вільня*

# Імпрэзы ў Вашынгтоне

29 лістапада адбылася дыскусія пад назваю "Усходняе партнёрства і справа Беларусі". Арганізатарамі яе былі Freedom House і Літоўская амбасада ў ЗША. З галоўным дакладам выступіў Стэфан Фьюле (Stefan Fule), эўрапейскі камісар у справах пашырэньня Эўразьвязу і суседзкай палітыкі. Ён прызнаў, што бальшыня ўмоваў АБСЕ наконт вольных і справядлівых выбараў дасюль не была выкананая беларускімі ўладамі. У дыскусіі бралі ўдзел шэраг прадстаўнікоў Дзяржздэпартамэнту і вашынгтонскіх установаў. Было выказана агульнае жаданьне, што павінна быць больш цесная каардынацыя дзейнасьці ў адносінах да Беларусі між ЗША і Эўразьвязам. З беларускага боку бралі ўдзел Ірына Красоўская ад Фундацыі "Мы помнім" і Вячка Станкевіч ад БАЗА.

1 сьнежня праходзіла пасяджэньне адказнай Рады Эўрапейскага гуманітарнага унівэрсытэта (ЭГУ), які цяпер знаходзіцца ў Вільні. Пасьля яго адбылося прыняцьцё ў рэзыдэнцыі шведзкага амбасадара ў ЗША Джонаса Гафстрома (Jonas Hafstrom). Шведзкі ўрад цяпер з'яўляецца галоўным мецэнатам ЭГУ. У прыняцьці і гутарках на тэму адукацыі бралі ўдзел літоўскі амбасадар Жыгімантас Павіліоніс, рэктар ЭГУ Анатоль Міхайлаў і віцэ-рэктар Аляксандар Калбаска, амбасадар Дэвід Шворц ад Цэнтру беларускіх дасьледаваньняў, Вітаўт Кіпель ад БІНІМу і некалькі выпускнікоў ЭГУ, якія цяпер пасяліліся ў ЗША.

*Вячка Станкевіч*

# Сьвяткаваньне 90-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну ў Лёндане

27 лістапада у Беларускім Доме ў Лёндане Згуртаваньне беларусаў Вялікабрытаніі правяло ўрачыстае паседжаньне ў памяць ваяроў Слуцкага збройнага чыну. Галоўным момантам сьвята стала адкрыцьцё помніка удзельніку тых гераічных падзеяў Лявону Рыдлеўскаму.




Лявон Рыдлеўскі быў адным з самых маладых удзельнікаў Слуцкага паўстаньня. У 1920 годзе яму было толькі 17 гадоў. Пасьля задушэньня паўстаньня ён вучыўся ў Празе, дзе быў адным з удзельнікаў беларускага студэнцкага руху. А ў канцы 20-х гадоў ён разам зь Міколам Абрамчыкам выехаў у Францыю.

У 1940 годзе Лявон Рыдлеўскі змог дамагчыся дазволу для беларусаў ваяваць у францускім войску ў складзе спэцыяльнага легіёну. Ён быў толькі адным з каля сарака жаўнераў, якія засталіся пасьля сутыкненьня з Вэрмахтам, але правёў усю Другую сусьветную вайну ў партызанцы.

Пасьля вайны ён быў адным з тых, хто спрычыніўся да ўратаваньня каля двухсот беларусаў з Даніі ад выдачы сталінскаму ўраду. Свой жыцьцёвы шлях ён скончыў у Лёндане».

Сярод тых эмігрантаў, каму некалі дапамагаў асвоіцца на чужыне Лявон Рыдлеўскі, была й прысутная на сьвяце Старшыня Рады Беларускай Народнай рэспублікі сп-ня Івонка Сурвілла, яна прыпомніла той час: «Я памятаю Лявона Рыдлеўскага з Парыжу. Калі мы туды прыехалі, мне было толькі 12 гадоў. Ён нас спаткаў. Ён тады намі апекаваўся. Ён фактычна быў апекуном усіх новапрыежджых беларусаў у Парыжы. Усім памагаў. Жыў вельмі цяжка, але быў сапраўды аддады сваймy народу.

Я сёньня прыехала ў Лёндан спэцыяльна на адкрыцьцё помніка на ягонай магіле. Прыехала таму, што я захопленая гэтым чалавекам і памятаю яго як цудоўнага беларуса. Ён быў ня толькі случчаком, але быў таксама і ў францускай рэзыстанс, змагаўся супраць фашыстаў. Ён дзякуючы сваім знаёмствам быў здольны шмат-шмат памагчы беларусам. Для мяне было шчасьцем прысутнічаць тутака сёньня на адкрыцьці помніка».

Адкрыцьцё адноўленага надмагільнага помніка інжынэру Лявону Рыдлеўскаму адбылося на могілках Гэмпстэд у Лёндане. Багаслужбу правёў айцец Сяргей Стасевіч.

*Паводле Радыё Свабода 27.11.2010*



# Угодкі Слуцкага збройнага чыну ў Нью-Ёрку

28 лістапада ў Нью-Ёрку адбылася ўрачыстасьць, прысьвечаная 90-м угодкам Слуцкага збройнага чыну. Ладзіў яе Бруклінскі аддзел БАЗА ў грамадзкай залі Сабора Сьв. Кірылы Тураўскага . Прысутныя з увагаю заслухалі віншаваньне з нагоды гэтай знамянальнай даты Старшыні Рады БНР сп-ні Івонкі Сурвіллы. Сп-ня Галіна Падлеская зачытала рэфэрат пра гераічнае змаганьне слуцкіх паўстанцаў ў абарону Беларускай Народнай Рэспублікі. Сп-я Тацьцяна Красоўская нагадала, што непасрэдным удзельнікальнікам паўстаньня быў айцец Хведар Данілюк, які жыў ў Нью-Джэрзы. Успаміны пра яго запісаныя ягоным сынам Барысам Данілюком. На жаль, сам сп. Барыс не змог прысутнічаць на пасяджэньні і пра асноўныя факты з ягоных успамінаў распавяла сп-ня. Тацьцяна Красоўская. Яна толькі што вярнулася з Лёндану і паведаміла пра тое, што там быў адчынены рэстаўраваны помнік слуцкаму паўстанцу Лявону Рыдлеўскаму. На завяршэньне прысутныя мелі магчымасьць праглядзець дакумэнтальны фільм пра Слуцкае паўстанне, падрыхтаваны БЕЛСАТ і мастацкі фільм па творах Васіля Быкава "На чорных лядах".

*Управа Бруклінскага аддзелу БАЗА*

# Выбары ды выбары

*Погляд на выбары з беларускага замежжа*

Тое, што А Лукашэнка ізноў бярэ ўдзел у выбарах на прэзыдэнта, напэўна, многім людзям не дае супакою. Бо што ж новага можа прынесьці Лукашэнка Беларускаму народу? Для нас, беларусаў, якія жывуць па-за межамі свайго роднага краю, Лукашэнка зьяўляецца захавальнікам феадальна-калгаснай сістэмы, дзе людзі маюць падобнае жыцьцё, як рабы тысячы гадоў таму назад.

А. Лукашэнка ёсьць для Беларусі, як "завалі-дарога" на шляху да лепшага жыцьця, да прагрэсу, да дэмакратыі і свабоды. На ім вісіць адказнасьць за зьніклых людзей. У заходніх краінах ніякі кандыдат у прэзыдэнты не можа прэтэндаваць на гэтае становішча, калі біяграфія ягонага жыцьця не ёсьць чыстая. Беларусы маюць права сказаць Лукашэнку: "Стоп! Годзе!" Шаснаццаць гадоў паніжаць і ганьбіць беларускую мову, культуру, разбураць і зьнішчаць беларускую гісторыю – гэта яшчэ дадатковы рахунак дыктатару.

Лукашэнка не мае дастатковай здольнасьці, каб вызначаць лёс беларускаму народу. Беларуская нацыя мае тысячагадовую гісторыю свайго існаваньня. Ніхто не мае права паніжаць і ганьбіць сьвятое для беларусаў імя іх Бацькаўшчыны.

Мы тут, у Аўстраліі, з зайдрасьцю прыглядаемся праз інтэрнэт- старонкі "Белсата", як беларусы ў Беластоцкім краі жывуць у вёсках, як гаспадараць самы над сабою. У іх ёсьць добрыя ўласны хаты, гумны, хлявы, уся патрэбная гаспадарка. А як у Беларусі? Там няма гаспадароў, а ёсьць работнікі калгасна-феадальнае сістэмы. Гэты калгасны прыгнёт не будзе вечна, але колькі ахвяраў ён каштаваў нашаму народу і завёў краіну ў тупік і эканамічны заняпад.

Новаабраны прэзыдэнт Беларусі мусіў бы пайсьці па іншаму шляху, прадбачыць, якія формы гаспадараньня найбольш адпаведныя нашаму краю, нашай гісторыі. Дапамогаю презыдэнту ў гэтым павінны быць народны парлямэнт. Патрэбна, каб была добра наладжаная кантрольная сыстэма.



*Кандыдаты ў прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь*

*(фота з сайту Радыё Свабода)*

Цяпер лёгіка кажа, што калі Лукашэнка не адыйдзе сам, дык ён будзе рабіць новыя грахі, але ўжо ў значна большым масштабе. Трэба такому человеку дапамагчы адыйсьці, трэба адабраць ад яго на самай справе непатрэбную яму ўладу, каб ня меў магчымасьці рабіць новыя злачынствы супроць беларускага народу.

Дэмакратычныя грамадзкія сілы павінны прыкласьці ўсе намаганьні, каб у краіне адбыліся сапраўдныя выбары, а не выбарчы фарс. Грамадзкасьць павінна адмовіць у даверы старому складу Цэнтральнай выбарчай камі, якая не апраўдала даверу раней. Павінны быць наладжаны кантроль за самім ходам выбараў, каб не было хвальшаваньня.

*Янка Барысевіч,*
*Аляксандр Грыцук*
*Беларускі Цэнтральны Камітэт ў Вікторыі- Мельбурн, Аўстралія*

# Выбарчыя камісіі за мяжой – самыя кялейныя

44 выбарчыя ўчасткі будуць працаваць за межамі Беларусі падчас сёлетніх прэзыдэнцкіх выбараў. Гэта на тры болей, чым было на папярэдніх. Мяркуецца, што гэтым разам за мяжой прагаласуюць каля дзесяці тысяч чалавек.

Выбарчыя ўчасткі за мяжой ахопліваюць няшмат людзей. Гэта пераважна тыя, хто стаяць тут на консульскім уліку. Але, як паказвае жыцьцё, вельмі многія грамадзяне Беларусі гэтую працэдуру проста ігнаруюць. І хаця ўлады запэўніваюць, што і іншыя грамадзяне, якія не стаяць на консульскім уліку, могуць без праблем прагаласаваць у дзень выбараў, іх колькасьць значна не павялічваецца.

Старшыня выбарчай камісіі Лідзія Ярмошына падкрэсьлівае:

«Вядома, гэта тычыцца невялікай колькасьці грамадзянаў, чыё волевыяўленьне не вырашае лёс выбараў. Таму што гэта нязначны працэнт. Гэта сотыя долі працэнту ад агульнай колькасьці выбарцаў».

Здавалася б, у такой сытуацыі за мяжой няма сэнсу праводзіць выбары па ўнутраных традыцыях. Аднак, як паказвае досьвед, за межамі Беларусі і выбарчыя камісіі фармуюць гэтаксама, як унутры краіны, і бюлетэні лічаць гэтаксама. Як расказаў «Свабодзе» на ўмовах ананімнасьці беларускі дыпламат, які і дагэтуль працуе ў адной з амбасадаў, непасрэднага загаду з МЗС пра пэўныя вынікі выбараў няма. Але ўсе ведаюць, што вынікі галасаваньня становяцца вядомыя ў Менску. І гэта падштурхоўвае да спаборніцтва: якая амбасада дасьць найбольшы працэнт на карысьць дзейнага кіраўніка дзяржавы.

Ды і дзейнае выбарчае заканадаўства спрыяе фальшаваньню. Яно дазваляе зьмяншаць колькасьць сяброў выбарчай камісіі «ў залежнасьці ад унутраных абставінаў амбасады». І калі беларусы дэмакратычных поглядаў спрабуюць накіраваць сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі, яны атрымліваюць тыповыя адказы, кшталту такога, які падпісаў консул Беларусі ў Чэхіі спадар Шпак: «Пры разглядзе зваротаў ад груп грамадзянаў па выніках конкурснага адбору ў склад выбарчай камісіі абраны бізнэсовец Татун Сяргей Іванавіч, які абраны намесьнікам старшыні камісіі».

Найбольшая колькасьць выбарчых участкаў па-за межамі Беларусі прыпадае на Расею. Тут галасаваньне пройдзе ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Калінінградзе і Краснадары. Традыцыйна вынікі волевыяўленьня грамадзянаў за межамі Беларусі ўключаюць у дадзеныя па Ленінскай раённай камісіі Менску, на тэрыторыі якой знаходзіцца Міністэрства замежных справаў.

Нягледзячы на тое, што паводле заканадаўства ў выбарчыя камісіі ўключаюцца ад 5 да 19 чалавек, практычна ўсе ўчасткі для галасаваньня для выбараў за мяжой сфармаваныя з трох сябраў. Закон таксама прапісвае, што ў неабходных выпадках склад камісій можа быць паменшаны ці павялічаны. Аднак, відавочна, што дыпрадстаўніцтвы і самых экзатычных для беларусаў краінаў, і самых асвоеных беларусамі, дзейнічалі па адной інструкцыі. Так, камісіі з трох чалавек створаныя для галасаваньня беларусаў на выбарчых участках у Расеі, Польшчы, Ізраілі і па ўсім астатнім сьвеце.

*Паводле Радыё Свабода*
*26 лістапада 2010*

# Абама і Камароўскі заклікалі да свабодных выбараў у Беларусі

Прэзідэнты ЗША і Польшчы заклікалі да свабодных і справядлівых выбараў у Беларусі. Пра гэта гаворыцца ў сумеснай заяве Барака Абамы і Браніслава Камароўскага, прынятай 8 снежня ў Вашынгтоне па выніках перамоваў кіраўнікоў дзяржаваў.



"Польшча і Злучаныя Штаты Амерыкі заклікаюць да свабодных і справядлівых прэзідэнцкіх выбараў 19 сьнежня ў Беларусі, — гаворыцца ў заяве.

*Паводле Радыё Свабода*
*09.12.2010*

# ЗША патрабуюць ад Лукашэнкі павагі да дэмакратыі і правоў чалавека.

1 сьнежня ў Астане (Казахстан) пад час саміту АБСЭ адбылася афіцыйная сустрэча дзяржсакратара ЗША Гілары Клінтан з міністрам замежных справаў Беларусі Сяргеем Мартынавым.

У прынятай сумеснай заяве гаворыцца:

"Дзеля паляпшэньня двухбаковых адносінаў першачарговую важнасьць па ранейшаму мае выяўленьне большай павагі да дэмакратыі і правоў чалавека, якое неабходна для прагрэсу краіны і яе грамадзянаў. Злучаныя Штаты спадзяюцца пабачыць істотны прагрэс ў гэтых накірунках, у прыватнасьці, у справе забесьпячэньня ходу прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі ў сьнежні ў адпаведнасьці з міжнароднымі стандартамі".

У заяве таксама гаворыцца пра падтрымку з боку ЗША намераў Беларусі па будаўніцтву АЭС.

Гілары Клінтан і Сяргей Мартынаў падцьвердзілі пасьлядоўнасьць сваіх краінаў у справе замацаваньня ядзернай бясьпекі і абавязаліся працаваць разам дзеля папярэджаньня ядзернага распаўсюджваньня.

Сяргей Мартынаў таксама заявіў пра тое, што Беларусь прыняла рашэньне аб ліквідацыі ўсіх сваіх запасаў высокаабагачанага урану і мае намер зрабіць гэта да наступнага Саміту па ядзернай бясьпецы ў 2012 годзе. Са свайго боку ЗША паабяцалі аказаць тэхнічную і фінансавую дапамогу.

Але, тым не менш, ЗША нядаўна працягнулі да 31 траўня 2011 году дзеяньне санкцый ў адносінах да беларускіх прадпрыемстваў, якія належаць да канцэрну "Белнафтахім", за выключэньнем "Полацкшкловалакна" і "Лакіфарбы".

*Паводле сайту Хартыя97*
*2 сьнежня 2010*

## *Пішуць нашыя чытачы*

**Юля Лісоўская, родам з Пінску, цяпер жыве ў ЗША. Яна падпісалася на газэту “Беларус” і хоча быць не толькі чытачом, але і спрабуе сябе ў якасьці аўтаркі. Яна зацікаўлена наглядае за падзеямі на Бацькаўшчыне не толькі праз Інтэрнэт, але і распытвае пра сытуацыю ў Беларусі сваіх землякоў, якіх сустракае ў Амэрыцы.**

**Пад час сустрэчы з адным з дзеячаў незалежнага прафсаюзнага руху ў Беларусі Сяргеем Антусевічам Юля запісала з ім інтэрв’ю, якое прапанавала нашай газэце.**

*Сяргей Антусевіч сёлета кароткі час навучаўся ў Калумбійскім унівэрсытэце па праграме абароны правоў чалавека. Ён з’яўляецца сакратаром-скарбнікам Беларускага Незалежнага Прафсаюза(БНП).*

**Кар**.: Раскажыце трохі пра БНП, чым ён адрозьніваецца ад дзяржаўных прафсаюзаў?

**Ант**.: Па сваіх функцыях гэта такі самы прафсаюз, як і ўсе іншыя. Па закону, усе арганізацыі павінны быць зарэгістраваныя, мы таксама афіцыйна зарэгістраваная арганізацыя і працуем па беларускіх законах. Здаецца, што і адносіны да нас з боку дзяржавы павінны быць такімі, як і да афіцыйных прафсаюзаў. Але, на самай справе гэта не так. Падпарадкаваныя ўладам прафсаюзы і самі дзяржаўныя ўлады спрабуюць нас выціснуць. Для нас цяпер самая галоўная задача – выжыць ў гэтых неспрыяльных умовах.

У наступным годзе БНП споўніцца 20 гадоў, калі людзі ідуць да нас – гэта значыць, што мы ім патрэбныя. Але, існуючая цяпер кантрактная сістэма стварае нам вялікія перашкоды, бо людзі не імкнуцца абараняць свае правы, баяцца страціць працу.

**Кар**.: Але, прафсаюзы якраз і існуюць для таго, каб абараняць правы працоўных. Як у вас, больш такіх сяброў, якія толькі лічацца, ці ёсьць тыя, хто актыўна працуе незалежна ад сытуацыі і пагрозаў?

**Ант**.: Безумоўна, ёсьць шмат такіх, якія толькі плацяць складкі, мы не маем да іх прэтэнзіяў і дзякуем, што яны з намі. Але, асноўная праца робіцца тымі, хто гатовы працаваць для сябе і для іншых. Прафсаюз найперш патрэбны людзям дзеля таго, каб прадстаўляць інтарэсы працоўных перад адміністрацыяй, а потым ужо абараняць.

**Кар**.: Якая для вашага прафсаюза сёньня найбольш актуальная праблема?

**Ант**.: Безумоўна, найперш, ужо згаданая мною контрактная сістэма, якая выкарыстоўваецца паўсюль дзеля запалохваньня людзей.

Другая – гэта перашкоды ў рэгістрацыі нашых арганізацыяў. Галоўная ўмова рэгістрацыі – наяўнасьць юрыдычнага адрасу, ён павінен быць не ў жылым, а толькі ў службовым памяшканьні. Дзяржаўныя і прыватныя структуры не хочуць даваць нам памяшканьне ў арэнду, альбо запрошваюць занадта вялікія кошты, часам іх прымушаюць нам адмовіць. Калі няма юрыдычнага адрасу, няма рэгістрацыі і няма права на дзейнасьць.

**Кар**.: У Беларусі набліжаюцца прэзыдэнцкія выбары. Калі раптам улада зьменіцца, як хутка ўдасца пераадолець гэтыя перашкоды і стварыць спрыяльныя ўмовы для незалежных прафсаюзаў?

**Ант**.: Хутка не атрымаецца, але, праз год-два можна палепшыць сытуацыю Найперш, патрэбна ўвесьці заявачную форму рэгістрацыі грамадзкіх арганізацый, ліквідаваць гэтую дазваляльную , якая існуе зараз. Вядома, патрэбна адмяніць і сучасную кантрактную сістэму прыёму на працу, якая не

падобная на тую , што існуе ў дэмакратычных краінах, а выкарыстоўваецца супроць самых працаўнікоў. У нас галоўны сэнс кантрактнай сістэмы заключаецца ў тым, каб забясьпечыць лаяльнасьць работнікаў да існуючай улады, каб яны былі абсалютна залежнымі, каб трымаць іх на “кароткім павадку”. Улада добра памятае, што было ў 1991 годзе, якая высокая была актыўнасьць рабочых, што выйшлі з пратэстам на вуліцы Менску. Цяпер з дапамогаю кантрактаў улады стараюцца прыглушыць гэтую актыўнасьць,

“падкарміць” рабочых, замацаваць ў людзей абыякавасьць да ўсяго – адпрацаваў і пайшоў дахаты.

**Кар**.: Якая зараз сытуацыя сярод рабочых, такая абыякавасьць, ці нарастае незадавальненьне?

**Ант**.: Многія разумеюць, што выбары могуць быць сфальшаваныя, як гэта было раней, і ўжо на гэта звыклі, быццам так і трэба. Акрамя таго, падкормка беларускага рэжыму з боку Расеі праз танную нафту і газ давала магчымасьць уладам плаціць мізэрную зарплату і даваць сацыяльную падтрымку. Гэта як бы супакойвала людзей, стварала ілюзію, што ўсё ідзе добра, што жывуць яны лепей, чым ў суседніх постсавецкіх краінах. Цяпер адносіны з Расеяю зьмяніліся, можа пагоршыцца эканамічная сытуацыя і адпаведныя зьмены наступяць ў галовах людзей.

**Кар**.: Наконт кандыдатаў у прэзыдэнты, хто з іх, на Ваш погляд, лепш пакіраваў бы краінаю?

**Ант**.: Я думаю, што кожны з іх. Але любога, хто не прыйдзе цяпер, запомняць з дрэннага боку, бо яму давядзецца праводзіць непапулярныя рэформы, каб выйсьці з тупіка.

**Кар**.: Як Вы лічыце, ці могуць быць гэтыя выбары дэмакратычнымі і справядлівымі?

**Ант**.: Думаю, што будуць адбывацца, як і раней. На сёньня створаная цэлая сістэма, якая забясьпечвае патрэбныя ўладам вынікі. Але, шмат залежыць ад людзей, яны павінны ісьці галасаваць толькі ў дзень выбараў, гэта ўскладніць фальсіфікацыю. На маю думку, нават у гэтых умовах зьмена ўлады магчымая. Гэта залежыць ад актыўнасьці людзей, калі б на вуліцы выйшла 50-100 тыс.. Толькі вуліца, толькі самі беларусы могуць зрынуць гэтую уладу. Але, ці адбудзецца гэта цяпер?

*Юля Лісоўская*
*Нью-Ёрк*

---

## Дэвід Крэймер: “На дыктатара трэба аказваць ціск “

На канфэрэнцыі ладжанай 18 лістапада 2010 Школаю вышэйшых міжнародных дасьледаваньняў (SAIS) пры Універсітэце Джонса Гопкінса ў Вашынгтоне, выступілі трое дасьведчаных палітолягаў у дачыненьні да Беларусі: Орэст Дзейчакіўскі, Тарас Кузё і Дэвід Крэймер.

Орэст Дзейчакіўскі, палітычны дарадца Камісіі па бясьпецы і супрацоўніцтве ў Эўропе (Гэльсінская камісія), назваў Беларусь «анамаліяй сучаснай Эўропы». Дзейчакіўскі быў міжнародным назіральнікам на прэзідэнцкіх выбарах 2006 года і распавёў, як чальцы выбарчых камісіяў рабілі ўсё, каб схаваць працу па падліку галасоў. Ён нагадаў, што ўсе выбары, праведзеныя падчас кіраваньня Лукашэнкі, не адпавядалі эўрапейскім стандартам. Цяпер, паводле яго словаў, сітуацыя перад выбарамі крыху палепшылася, аднак выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў паранейшаму знаходзяцца пад поўным кантролем уладаў. Ён скончыў сваю прамову пажаданьнем, каб не гледзячы на цяжкасьці, Злучаныя Штаты і Эўразьвяз сумеснымі намаганьнямі працягвалі спрыяць усталяваньню дэмакратыі ў Беларусі.

Гісторык Тарас Кузё, які асабліва цікавіцца сучаснай сытуацыяй ва Украіне і Беларусі, зрабіў шэраг цікавых параўнаньняў наконт падзеяў ў двух суседніх краінах.

Дэвід Крэймер, выканаўчы дырэктар праваабарончай арганізацыі «Фрыдам гаўс» (Freedom House), які ў папярэднім амэрыканскім урадзе займаў пасаду памочніка Дзяржсакратара, нагадаў, што ЗША і ЭЗ зрабілі рэальныя крокі дапамагчы дэмакратызацыі Беларусі. Яны ўвялі санкцыі ў дачыненні да рэжыму Аляксандра Лукашэнкі, якія былі накіраваныя на тое, каб прымусіць Менск вызваліць палітычных зняволеных.




Гэтае дзеяньне мела рэальныя вынікі. “На дыктатара трэба аказваць ціск” – сказаў Дэвід Крэймэр”.

Прысутнымі на канфэрэнцыі бралі запрошаныя арганізатарамі прадстаўнікі Беларуска-Амэрыканскага задзіночаньня.

*Вячка Станкевіч*

---

## Ужо пара на свабоду! (It’s time for freedom !)




З такім лёзунгам выступілі маладыя актывісты па цэлым сьвеце ў падтрымку свабоды ў Беларусі. 16 сьнежня, напярэдадні выбараў пляну ецца ўжо такая шостая Акцыя моладзі. Першая прайшла ў 2006 годзе напярэдадні сфальшаваных прэзыдэнцкіх выбараў пад лёзунгам “Дайце голас грамадзянам Беларусі!”. Кожны год усё болей і болей людзей бярэ удзел у Акцы. Сёлета ў сакавіку Акцыя адбылася 125 гарадох на пяці кантынентах сьвету.

Арганізацыя “Маладыя Эўрапейскія Фэдэралісты” (JEF) заклікае моладзь сьвету сарганізаваць сваю Акцыю, або далучыцца да Акцыі ў сваім горадзе і такім чынам спыніць працяг дыктатуры, гучна заявіўшы: “Ужо пара на свабоду!”

*Паводле сайту : www.jef.eu*

---

## Лукашэнка пайшоў на саступкі Расеі

У Маскве кіраўнік Беларусі Аляксандар Лукашэнка падпісаў дакумэнты па стварэньні адзінай эканамічнай прасторы (АЭП) і паабяцаў іх ратыфікаваць да 1 студзеня 2011 году. У выпадку ратыфікацыі Беларусь зможа атрымліваць бязмытную расейскую нафту, але пералічваць у расейскі бюджэт сто працэнтаў мыта ад продажу сваіх нафтапрадуктаў.

Аляксандар Лукашэнка паабяцаў Крамлю, што пакет дакумэнтаў па АЭП будзе ратыфікаваны ў самыя кароткія тэрміны.

Як ацэньваюць гэтыя дамоўленасьці ў Менску? Хто перамог: Лукашэнка ці Мядзьведзеў?

Леанід Заіка, кіраўнік аналітычнага цэнтру «Стратэгія» мяркуе, што ў Лукашэнкі адна мэта — даць магчымасьць беларускім тэлеканалам паказваць карцінку пра неверагодныя посьпехі Лукашэнкі ў Крамлі, пра тое, што ён дамовіўся зь Мядзьведзевым па ўсіх пазыцыях.

Кандыдат у прэзыдэнты, кіраўнік цэнтра Мізэса Яраслаў Раманчук мяркуе, што Лукашэнка пайшоў на саступкі Расеі.

«Атрымліваецца, што экспарт перапрацаванай нафты — гэта найперш бізнэс расейскіх кампаній, а не беларусаў. Так што гэта, безумоўна, саступка, і Лукашэнка па сутнасьці пагадзіўся з тым, што Беларусь перастае быць нафтавым афшорам у Расеі».

Дасягнутыя за дзесяць дзён да выбараў дамоўленасьці Раманчук лічыць палітычнымі, бо Лукашэнка разумее, што ў грамадзтве дрэнна рэагуюць на сварку з Расеяй. Паводле Раманчука, афіцыйны Менск ня будзе выконваць падпісанае.

«Лукашэнка зноў робіць захады для таго, каб прынамсі на словах памірыцца з Крамлём, бо ён разумее, што непрызнаньне Крамля на гэтых выбарах азначае катастрофу яго замежнай і ўнутранай палітыкі. Таму ён стаў такі лагодны, і гэта тая цана, якую ён плаціць за магчымасьць зьмякчыць пазыцыю Крамля па выбарах».

*Паводле Радыё Свабода*
*9 сьнежня 2010*

# 60 гадоў "Беларусу"

Першы нумар газэты "Беларус" выйшаў у Нью-Ёрку 20 верасьня 1950году на 4 старонках.
У склад Рэдакцыі ўваходзілі Леанід Галяк (адказны рэдактар), Міхась Рагуля і Пятро Манькоўскі. Зьмест газэты рыхтаваўся ў Нью-Ёрку, а друкавалася яна напачатку ў Канадзе з дапамогаю канадыйскіх беларусаў.
У першым нумары на загалоўнай старонцы Рэдакцыя паведамляла чытачам, з якіх прычынаў беларускія эмігранты ў Амэрыцы рашылі выдаваць сваю газэту:
"Найважнейшай прычынай, што спанукнула нас да выдаваньня газэты - гэта неабходнасьць інфармаваць увесь цывілізаваны сьвет аб падзеях у Беларусі, выясьняючы праўду аб імкненьнях і ідэалах Беларускага Народу ў ягоным змаганьні з акупантам, ды змагацца з усёй той маною, хвальшам і баламуцтвам нашых варагоў, якую яны сеюць праз сваю прэсу сярод нашых людзёў у Амэрыцы. "
Названыя прычыны вызначылі галоўныя мэты выданьня і тэматыку яе публікацыяў. Такою газэта ў аснове заставалася доўгія гады, але з цягам часу яе тэматыка значна пашырылася, жыцьцё ўносіла свае карэктывы.
Кожны з новых рэдактараў таксама прыносіў свае думкі, свае падыходы, сваё бачаньне беларускіх праблемаў. Але, газэта заўсёды заставалася пасьлядоўнаю ў адстойваньні ідэі дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, адраджэньня і разьвіцьця нацыянальнай мовы і культуры. Такою яна застаецца і мусіць заставацца ў будучыні, каб быць патрэбнаю свайму чытачу, дапамагаць яму арыентавацца ў падзеях і ацэньваць іх з пункту гледжаньня нацыянальных інтарэсаў, дапамагаць беларусам на чужыне трымацца сваіх нацыянальных каштоўнасьцяў і папулярызаваць іх сярод іншых народаў.
Газэту"Беларус" выдавалі вядомыя беларускія дзеячы, чые імёны і выявы без сумневу застануцца ў беларускай гісторыі, бо іх праца ў беларускім руху сягала нашмат шырэй, чым толькі выданьне газэты. Многім з вас добра знаёмыя іх вобразы, але мы тут падаём фотаздымкі ўсіх адказных рэдактараў газэты, дзякуючы ахвярнай працы якіх "Беларус" 60 доўгіх гадоў выходзіў да сваіх чытачоў. Хацелася б, каб яны назаўсёды засталіся ў гісторыі газэты, каб іх маглі пабачыць маладыя беларусы, для якіх праз канкрэтныя аблічны стане больш зразумелым мінулае і іх роля ў справе працягу грамадзкай дзейнасьці старэйшых пакаленьняў.
Выбачаемся, што пакуль не ўдалося ўстанавіць больш дакладныя даты, пакінем гэтую працу будучым дасьледчыкам гісторыі беларускага замежжа.
Акрамя пададзеных тут імёнаў адказных рэдактараў, ў выданьні газэты прымалі ўдзел шмат іншых беларусаў, кожны з якіх выконваў свой кавалачак працы. Пералічыць усіх іх не маем магчымасьці, але выказваем ім шчырую падзяку і пашану за іх ахвярнасьць.


*Леанід Галяк (вер. 1950 – сакавік 1952)*


*Вітаўт Тумаш (сакавік 1952 - )*


*Міхась Міцкевіч (- прыкладна 1960)*


*Натальля Арсеньева (- чэрвень 1954)*


*Лявон Савёнак (чэрвень 1954 - )*


БЕЛАРУС
ЧАСАПІС БЕЛАРУСАЎ У З. Г. А. BYELARUS — BYELORUSSIAN NEW
Год I, № 1 20 верасьня, 1950 NEW YORK 29, N. Y. U. S. A. Sept. 20.


*Станіслаў Станкевіч (прыкладна 1960 – 1980)*


*Янка Запруднік (1980 – 1995)*


*Зора Кіпель (1995 – 2000)*


*Марат Клакоцкі (2002 - 2010 )*

# ЁСЬЦЬ ЧЫМ ГАНАРЫЦЦА!

Бясспрэчна: 60-годзьдзем, юбілеем газэты "Беларус", органу беларусаў Вольнага сьвету, можа ганарыцца і Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА), і шырокае беларускае грамадзтва. Гэтая газэта - паказьнік нацыянальна палітычнае ўпэўненасьці, сталасьці, рашучасьці. Бо так часта мы самі сябе бічуем-крытыкуем (праўда, не беспадстаўна!), што мы і сварлівыя, і слабыя, што ў нас мала што клеіцца... Але, вось на прыкладзе "Беларуса", на прыкладзе 60-гадовага існаваньня газэты, мы можам сьцьвярджаць, што беларусам уласьцівыя таксама й валявыя дадатныя адзнакі.

Газэта "Беларус", орган беларускае нацыянальнае думкі па-за Беларусяй, паўстала й жыве дзякуючы беларускаму грамадзтву, ягоным дзяржаўна ідэялягічным паглядам, перакананьням. У шырокім газэтна-інфармацыйным сьвеце, бадай, ня шмат падобных прыкладаў-зьяваў.

З нагоды юбілею газэты варта азірануцца ў нашу 60-гадовую даўніну -- пэрыяд, калі, як кажуць, "усё пачалося".

Канец 40-х -- пачатак 50-х гадоў ХХ-га стагодзьдзя былі часам, калі пасьля кароткай эўфарыі саюзьнікаў- пераможцаў над нацыстоўскай Нямеччынай разгарэўся новы канфлікт -- узьнялася халодная вайна паміж былымі аліянтамі -- усходне-азіяцкім і заходне-атлянтыцкім. Чалавецтва апынулася перад дзьвюма супрацьлеглымі мадэлямі ўладкаваньня паваеннага жыцьця сьвету– таталітарнай і дэмакратычнай. І вось у гэтым часе ў хоры ідэйна-палітычных галасоў беларускай дыяспары зьяўляецца голас газэты "Беларус", які абвяшчае, што Беларуская нацыянальная дзяржаўнасьць здушаная, што Савецкая Беларусь – гэта безгалосая частка імпэрыі, званай СССР, што беларуская эміграцыя ў ЗША будзе дэмаскаваць тую імпэрыю, гуртаваць суродзічаў ды весьці працу за аднаўленьне нацыянальнай дзяржавы – Беларускай Народнай Рэспублікі.

"Беларус" у 1950 годзе рушыў наперад. Пакаленьні эмігрантаў і фінансавалі й супрацоўнічалі з газэтай. Цягам першых дзесяцігодзьдзяў гэта былі дзеячы-ідэолягі, якія фармаваліся ў Вільні й Менску ў міжваенныя гады: Лявон Галяк, Лявон Савёнак, Натальля Арсеньева, Мікола Гарошка, Міхась Міцкевіч, Алесь Міцкевіч, Вітаўт Тумаш, Станіслаў Станкевіч, Зінаіда Станкевіч, Антон Шукелайць, Браніслаў Даніловіч ды дзясяткі іншых. Тых пачынальнікаў падмянілі па пэўным часе маладзейшыя з адукацыяй атрыманай на Захадзе: Ян Запруднік, Зора Кіпель, Вітаўт Кіпель, Васіль Русак, Галіна Русак, Раіса Станкевіч, Кастусь Акула, Антон Маркевіч. Трэцяе пакаленьне супрацоўнікаў і кіраўнікоў газэты прыйшло ўжо зь Беларусі постсавецкага пэрыяду: Лявон Юрэвіч, Зьміцер Саўка, Віталь Зайка ды выдавец-рэдактар, які паставіў газэту на сучасны ўзровень, Марат Клакоцкі. А цяпер рэдкалегію газэты ачоліла шматгадовая працаўніца на ніве беларушчыны Ганна Сурмач. Шчасьці Божа ў працы!

Як бачым, "Беларус" у сваёй гісторыі спалучыў у сабе розныя пакаленьні людзей пяра і нацыянальнай думкі. Агульным назоўнікам усіх іх была – і далей будзе -- Беларусь, ейная дэмакратычная дзяржаўнасьць, нацыянальная культура, мова, лепшая будучыня. А нязьменны дэвіз газэты ўсё той жа купалаў-скі кліч –

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

*Вітаўт Кіпель,*
*Янка Запруднік*

## Дарагія рэдактары і супрацоўнікі газэты "Беларус"

Віншую ўсіх вас з 60-мі ўгодкамі газэты "Беларус".
Дзякуючы ахвярнасьці і працаздольнасьці ўсіх тых, хто меў дачыненьне да выданьня газэты, мы сёньня можам адзначаць гэты слаўны юбілей.
Прыпамінаю з удзячнасьцю і захапленьнем усіх рэдактараў: Леаніда Галяка, Вітаўта Тумаша, Натальлю Арсеньеву, Лявона Савёнка, Міхася Міцкевіча, Станіслава Станкевіча, Янку Запрудніка, Зору Кіпель, Марата Клакоцкага. Некаторы час дапамагалі выдаваць газэту Лявон Юрэвіч і Зьміцер Саўка. Усе яны прынесьлі столькі ведаў, інфармацыі чытачам газэты. Колькі высілкаў каштавала ім, каб кожны нумар выходзіў на добрым узроўні.
Віншую Ганну Сурмач, якая згадзілася прадаўжаць гэтую працу сваіх папярэднікаў. Я пэўная, што будзе яна гэта рабіць з той самай энэргіяй і адданасьцю, якія заўсёды праяўляла ў сваёй працы на карысьць Бацькаўшчыны.
Думаю, што і мы, чытачы, будзем рабіць усё, што ў нашых сілах, каб "Беларус" прадаўжаў нас яднаць на чужыне, зьвяртаць нашую ўвагу на патрэбы Беларусі і заносіць весткі пра нас нашым братом і сёстрам на Бацькаўшчыне.

**Жыве Беларусь!**

*Івонка Сурвілла*
*Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі*

Што я магу сказаць пра газэту "Беларус"? Газэта цудоўная, стаіць на добрай пазіцыі і папулярызуе нашы ідэалы - ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі. Дае добрую інфармацыю пра беларусаў Амэрыкі.
У часы саўковай імпэрыі мы нічога не ведалі пра беларусаў, якія змагаліся супраць гэтай імпэрыі, з яе рэжымам за незалежнасць Беларусі, многія з іх у гэтым змаганні аддалі сваё жыццё. Іншыя апынулася ў эміграцыі далёка ад родных хатаў, але і на чужыне засталіся патрыётамі і працягвалі змаганне праз свой гучны голас ў замежжы, якім стала газэта "Беларус". Гэты голас быў, безумоўна, чутны і саўковым уладам, бо іх спецслужбы маглі дастаць газету нават ў ЗША. Але, звычайным беларусам тады амаль немагчыма было ўбачыць газэту. Толькі калі пачалася Перабудова ў СССР і, асабліва, калі пачала рушыцца "імпэрыя зла" і беларусы маглі наведаць сваіх родных у Амэрыцы, тады можна было пачытаць "Беларуса". Так і мне надарылася пабачыць газэту амэрыканскіх беларусаў, першае знаёмства з ёю адбылося ў ліпені 1991г., калі я наведаў свайго роднага дзядзьку Целеша Уладзімера Антонавіча ў Таронта. Ён, былы вязень ГУЛага і ўдзельнік бітвы пад Монтэ Касіна, жаўнер Арміі Андэрса, пасля вайны застаўся ў Лёндане, а пазней пераехаў у Таронта, дзе пры Царкве св.Кірылы Тураўскага быў старшынём парафіяльнай рады і сябрам Рады БНР . Менавіта ў яго тады я пабачыў і нават прывез ў Рыгу некалькі экзэмпляраў газэты "Беларус" за 1989-1991 гады.
Дзядзька яе выпісваў пастаянна. Пазней аж да 1999г. газэту мне прысылала Юзэфа Найдзюк з Амэрыкі, за што я быў ёй вельмі ўдзячны. У адным з нумараў "Беларуса" за 1993 быў зьмешчаны некралёг аб сьмерці майго дзядзькі, гэты нумар я захоўваю, як рэліквію памяці аб ім. Астатнія ўсе нумары газэты перададзены мною і знаходзяцца ў бібліятэцы Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак", дзе яе можа пагартаць кожны зацікаўлены.
Выпісваць газэту нашым світанкаўцам пакуль што не атрымліваецца, Латвія, як і іншыя постсавецкія краіны, яшчэ не паднялася на дастаткова высокі эканамічны ўзровень і людзі не маюць добрых заробкаў. Але, цяпер ужо ёсьць і кампутары і інтэрнэт, дзякуючы ім мы гартаем электорнныя старонкі "Беларуса" і атрымліваем цікавую інфармацыю пра жыццё і дзейнасць нашых суродзічаў на амэрыканскім кантынэнце.
У сувязі з юбілеем ад імя Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак" і Аб'яднання мастакоў-беларусаў краінаў Балтыі "Маю гонар" віншую з гэтым сьвятам сёньняшнюю рэдакцыю і ўсіх тых, хто дапамагаў і зараз дапамагае выдаваць газэту "Беларус", зычу посьпехаў на будучыню.

**Жыве газэта "Беларус"!**

*Вячка Целеш*
*Латвія, Рыга*

## Газэце Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня "Беларус"

Шаноўныя сябры!
Выданьне любой газэты – гэта агромістая справа: цяжкая фізічная праца і вялікае інтэлектуальнае намаганьне. А рабіць высокапрафэсыйную газэту – гэта яшчэ і значная адказнасьць.
Газэта "Беларус" з'яўляецца ўзорам адказнасьці і прафэсіяналізму.
Газэта "Беларус" мужна і грунтоўна вядзе свой Рэй нацыянальнага беларускага патрыятызму.
Газэта "Беларус" адкрыта і аб'ектыўна распавядае пра самыя вострыя праблемы і падзеі Беларускага жыцьця ва ўсім сьвеце.
Атрымліваць і чытаць газэту "Беларус" неабходна кожнаму шчыраму беларусу.
Ад імя Рэгіянальнага грамадзкага аб'яднаньня "Іркуцкае Таварыства Беларускай Культуры імя Яна Чэрскага" (ІТБК) я віншую супрацоўнікаў газэты "Беларус" з юбілейным 60-годдзем. Спадзяемся, што традыцыі газэты будуць захоўвацца і надалей.
З вялікім задавальненьнем мы атрымліваем "Беларуса" ў Іркуцку. Кожны нумар чытаецца нашымі актывістамі і захоўваецца ў падшыўцы. А гэтая падшыўка ляжыць ў залі пасяджэньняў Рады ІТБК і прагортваецца шматлікімі нашымі сябрамі.
Вялікі дзякуй вам, сябры!
Чакаем ад вас навінаў!
Чакаем вашу газэту!
Спадзяемся, што "Беларус" будзе друкаваць артыкулы прыбайкальскіх беларусаў.
З павагаю

*Старшыня ІТБК*
*Алег Рудакоў*

## Віншуем газэту "Беларус"!

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" шчыра віншуе рэдакцыю газеты "Беларус" з 60-гадовым юбілеем.
На сёньняшні дзень газета "Беларус" з'яўляецца старэйшым беларускім выданнем у Амерыцы. Гэта, фактычна, летапіс беларускага жыцця, які мае вялікае значэнне не толькі для беларусаў Амерыкі, але і з'яўляецца найкаштоўнейшай крыніцай інфармацыі для даследчыкаў эміграцыі. Акрамя таго, "Беларус" -- гэта яшчэ і вакно ў родную Беларусь для тых, хто па розных прычынах апынуўся за тысячы кіламетраў ад Радзімы.
Зычым супрацоўнікам газеты як мага болей добрых беларускіх навінаў, новых творчых ідэй, далейшай плённай дзейнасці ў справе захавання і развіцця беларускай прысутнасці ў Амерыцы!

*Управа МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Ад імя Парахвіі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне

Вітаю рэдакцыю газэты "Беларус" са слаўным юбілеем. 60 гадоў таму газэта была заснаваная беларускімі эмігрантамі, якія перажылі жахі другой сусьветнай вайны і ў выніку гэтых сумных падзеяў апынуліся на чужыне, але не страцілі сваю беларускую адметнасьць.
Газэта «Беларус» заўсёды стаяла на моцным нацыянальным беларускім грунце й так павінна быць у будучыні.
Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква таксама стаіць на падобным грунце й існаваньне незалежнай БАПЦ на Бацькаўшчыне ёсьць адной з галоўных вымогаў для існаваньня запраўды свабоднай і незалежнай Беларусі.
Дык будзем набліжаць сумесную працаю сьветлую будучыню для нашай Бацькаўшчыны!

*Расьціслаў Гарошка*
*Старшыня Парахвіяльнай Рады*

## Ад імя Ўправы Згуртаваньня Беларусаў Вялікай Брытаніі

Сардэчна віншуем рэдакцыю газэты "Беларус" з 60-мі ўгодкамі з дня заснаваньня.
Ведаем, што за гэтыя гады газэта была надзейным сябрам для беларусаў замежжа, найбольш уплывовым і папулярным выданьнем, карысталася вялікай пашанай сярод беларускай дыяспары.
Памятаем, якую вялікую цікавасць выклікалі артыкулы аб лёсах суайчыннікаў, апынуўшыхся па-за межамі роднай Бацькаўшчыны. З захапленьнем чыталіся матэрыялы, прысьвечаныя гісторыі роднага краю. Вельмі карыснымі былі парады і тлумачэньні па розных праблемах жыцьця ў замежжы.
Упэўнены, што і надалей газэта застанецца надзейным сродкам аб'ектыўнай інфармацыі,
Жадаем сябрам рэдакцыі газэты "Беларус" плённай працы на карысьць беларускай справы.

*Лёля Міхалюк,- Старшыня ЗБВБ*
*Сяргей Пяткевіч, - Сакратар ЗБВБ*

## Таварыства беларускай культуры ў Літве

Выказвае свае шчырыя віншаваньні з нагоды 60- гадовага юбілею выхаду ў сьвет газеты "Беларус".
Радуемся, што на працягу 60 гадоў яна нясла слова праўды пра Беларусь і беларусаў на роднай мове. Дзякуем тым, хто не скарыліся, вытрымалі і захавалі ў цяжкіх умовах выгнанья беларускае слова і любоў да Бацькаўшчыны.

*Рада Таварыства Беларускай Культуры ў Літве*
*Вільня 6 лістапада 2010 г.*

## Шаноўныя сябры-беларусы!

Беларускія эмігранты, як новыя так і старэйшага пакаленьня, раскіданыя цяпер па цэлай Амэрыцы і, напэўна, многія з вас пачуваюць сябе адзінока і няўтульна на чужыне, маючы цяжкасьці трымаць сувязь з беларускім жыцьцём ў замежжы.
Але, існуе выйсьце. У мяйсцовасьцях, дзе жывуць хаця 5 беларусаў, можна заснаваць Гурток БАЗА дзеля лепшай сяброўскай сувязі і ўзаемадапамогі. Пры наяўнасьці большай колькасьці людзей можа быць створаны Аддзел БАЗА.
З пытаньнямі наконт гэтых справаў зьвяртайцеся на адрас газэты "Беларус", якая ёсьць друкаваным органам БАЗА.

*Галоўная управа БАЗА*

# 60 гадоў дзейнасьці Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў ЗША

14 лістапада 2010 ў Нью-Ёрку ў царкоўна-грамадзкай залі Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы (БАПЦ) пасьля нядзельнай багаслужбы адбылася ўрачыстасьць, прысьвечаная 60-й гадавіне Парафіі. Жыцьцё гэтага важнейшага духоўнага асяродку ў беларускім замежжы пачалося з першай багаслужбы, якая дала пачатак новаму перыяду ў дзейнасьці БАПЦ на чужыне.



Адноўленая ў 1942 годзе пад нямецкай акупацыяй ў Беларусі, БАПЦ падзяліла лёсы паваенных эмігрантаў і разам з імі апынулася на эміграцыі, спачатку ў Нямеччыне, дзе духоўна апякавалася беларусамі ў лягерах перамешчаных асобаў, а потым, калі людзі разьехаліся па сьвеце, парафіі БАПЦ былі створаны ў Вялікабрытаніі, Аўстраліі, Канадзе, Амэрыцы. Праўда, у той час сама БАПЦ мела праблемы, якія паставілі яе на мяжу распаду і самаліквідацыі, як, напрыклад, адыход епіскапату да расейскай царквы.

У ЗША, куды пераехалі на жыхарства шмат нацыянальна сьведамых беларускіх паваенных эмігрантаў, Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква атрымала новыя магчымасьці для працягу сваёй дзейнасьці.

Першая багаслужба БАПЦ на тэрыторыі ЗША адбылася восеньню 1950 году
у Брукліне. Свайго царкоўнага будынку беларусы тады яшчэ не мелі і вернікі сабраліся ў невялікім памяшканьні крамы на Ashford Street, якую наймалі дзеля патрэбаў беларускага грамадзкага жыцьця і называлі тады "Беларускаю хаткаю" . Багаслужбу адпраўляў мітр. прат. а. Хведар Данілюк. А. Данілюк быў удзельнікам Сабору 1942 году ў Менску, дзе была адноўленая Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, гісторыя якой сягае ў стагоддзі. Некалькі разоў яна нішчылася суседзямі з Усходу і Захаду і паўставала ізноў да новага жыцьця. Нагадаем, што афармленьне Аўтакефальнае Мітраполіі на тэрыторыі сучаснай Беларусі (тады ВКЛ) адбылося ў 1316 годзе ў Навагрудку начале з Мітрапалітам Тэафілам.

Сёньняшняя БАПЦ і яе першая ў Амэрыцы 60-гадовая Парафія Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку працягваюць гэты гістарычны шлях. Доўгі час Парафія не мела свайго будынку і мусіла наймаць памяшканьні для багаслужбаў у розных мейсцах Нью-Ёрку. Толькі амаль праз сем гадоў будынак для Царквы ўрэшце быў куплены на 401 Atlantic Avenue ў Брукліне. Уласнымі сіламі вернікі адрамантавалі, упарадкавалі і абсталявалі занядбалую будову і першая служба ў новым і, галоўнае, ва ўласным храме адбылася 3 лістапада 1957 году. З таго часу беларусы ў Нью-Ёрку маюць сваю Царкву, захаваньне якой давалася беларускай грамадзе не без цяжкасьцяў і перашкодаў. Акрамя дзейнасьці па задавальненьню духоўных патрэбаў беларускіх эмігрантаў, гэтая Царква і грамадзкая заля пры ёй сталіся галоўным асяродкам беларускага жыцьця, Беларускім цэнтрам ў Нью-Ёрку.

Парафія Сьв. Кірылы Тураўскага таксама шмат гадоў бярэ удзел у штогадовых этнічных фестывалях, якія адбываюцца на Atlantic Avenue і годна прэзентуе на гэтых шматлюдных сьвятах беларускую культуру і традыцыі сярод амэрыканцаў.

Сёньняшні кіраўнік БАПЦ, епіскап Сьвятаслаў, які з паважных прычынаў не змог прыехаць з Таронта на ўрачыстасьць, ў сваім віншавальным пасланьні напісаў:

"Пачатак, пакладзены за акіянам 60 гадоў таму ахвярнымі беларускімі сьвятарамі і вернікамі, надыхнуў многіх суайчыньнікаў ствараць духоўныя асяродкі ў Новым Сьвеце і працягваць справу дзядоў – змаганьне за незалежнасьць Беларускае царквы і Беларускае дзяржавы.

Катэдра ў Нью-Ёрку стала галоўным рэлігійным і культурным задзіночаньнем Беларускае Эміграцыі ўсяго сьвету, дзе кожны вернік мог унесьці сваю лепту ў агульную Беларускую справу і праявіць сябе на духоўнай і нацыянальнай ніве. Тут заўсёды падносіліся малітвы да Бога за Беларусь і за суайчыньнікаў і гэтая сьвятыня яшчэ павінна адыграць сваю ролю ў адраджэньні Беларускага Праваслаўя і нацыянальнае дзяржаўнасьці на Бацькаўшчыне".

З нагоды юбілею Парафіяльную раду і вернікаў прывітаў старшыня Галоўнай управы БАЗА сп.



Вячка Станкевіч, які нагадаў, што паваенныя эмігранты, якія залажылі Парафію, па прыездзе ў Амэрыку найперш закладалі цэрквы і беларускія арганізацыі, а потым ужо куплялі ўласныя дамы і ладзілі сваё асабістае жыцьцё.

Парафія атрымала таксама віншаваньне ад імя вернікаў БАПЦ ва Украіне, якое даслаў д-р архімандрыд Серафім. Ад вернікаў Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта прывітальны ліст даслала сп. Надзея Дробіна, дзе гаворыцца: "Парафія ў Брукліне – гэта не проста Царква. Гэта мейсца, дзе людзі атрымліваюць духоўную дапамогу і падтрымку. Дзе сустракаюцца нашыя суайчыньнікі, дзе зьберагаецца беларуская мова. Гэта культурна-нацыянальны цэнтр ў ЗША".

Былы прыхаджанін Парафіі, вядомы беларускі грамадзкі дзеяч у Амэрыцы сп. Янка Запруднік, які цяпер жыве ў Нью Джэрзы, у сваім прывітальным лісьце падкрэсьлівае: "Сам факт існаваньня Парафіі, а тым больш арганізаванае рэлігійнае жыцьцё ды выдавецкая, адукацыйная й культурна-папулярызацыйная дзейнасьць замацоўваюць і пашыраюць ідэю аўтакефаліі Беларускага Праваслаўя, узмацняюць нацыянальную сьведамасьць і адраджэнскую працу як на эміграцыі, гэтак і ў Беларусі".

Сп. Запруднік зычыць Парафіі далейшага плённага шляху ў тым жа накірунку да сьветлых ідэалаў, якімі кіраваліся заснавальнікі і папярэднія працаўнікі Парафіі.

З вялікай увагаю прысутныя заслухалі зварот да вернікаў сп. Барыса Данілюка. Цягам усяго свайго жыцьця ў Амэрыцы ён уклаў шмат сваёй працы ў тое, каб дзейасьць БАПЦ тут мацавалася і пашыралася і тым самым працягваў справу свайго бацькі а. Хведара Данілюка. Стан здароўя не дазволіў сп. Барысу быць прысутным на ўрачыстасьці, але душою ён быў прысутны ў храме, дзеля паўнавартаснага жыцьця якога шмат зрабіў.

Ён выказаў сваю надзею, што сёньняшняе кіраўніцтва Парафіі і вернікі
будуць клапаціцца пра захаваньне гэтага духоўнага цэнтру:

"Веру, што вы знойдзеце ў сабе мудрасьць дзеяць так, каб на адправах ў нашай сьвятыні было людна, каб на гэтых адправах сьпяваў годны Катэдральнага сабору хор ды была чутная толькі нашая чыстая родная мова, а й у нашай залі было цесна ад удзельнікаў царкоўных і грамадзкіх урачыстасьцяў ..."

Сябра Парафіяльнай Рады сп. Сяргей Капытка зачытаў урывак з публікацыі сп. Барыса Данілюка "Нязрынутыя нягодамі", якая пабачыла сьвет у часапісе "Царкоўны пасланец" (3-4 /44 /54) да 40-х угодкаў Парафіі, дзе распавядаецца пра гісторыю аднаўленьня БАПЦ і стварэньня Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага. Для бальшыні прысутных гэта былы раней малаведамая інфармацыя. Яе ўдала дапоўніла выступленьне сп. Антона Шукелойца, які падзяліўся сваімі ўспамінамі аб тым, як адбывалася аднаўленьне БАПЦ у 1942 годзе, бо ён быў непасрэдным удзельнікам гэтых падзеяў.

На завяршэньне для прысутных былі паказаны на экране фотаздымкі з гісторыі БАПЦ і Парафіі, якія каментавалі старэйшыя эмігранты, што некалі прысутнічалі на той першай багаслужбе 60 гадоў таму і былі тады яшчэ зусім маладымі – Расьціслаў Гарошка, Вячка Станкевіч, Ала Орса Рамана, а таксама сп. Верабей, які з жонкаю прыехаў на сьвята ад царквы ў Гайленд Парку.

*Арганізацыйны камітэт Бруклінскага аддзелу БАЗА й сястрынства Парафіі Сабору Сьв.Кірылы Тураўскага запрашае ўсіх беларусаў навакольля на традыцыйную супольную сустрэчу Новага года, якая адбудзецца ў грамадзкай залі Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне па адрасу: 401 Atlantic Ave ( скрыжаваньне Bond Str & Atlantic Ave. прыпынкі сабвэю " Atlantic Ave - Pacific Str", "Hoyt Schermerhorn").*

*Пачатак вечарыны ў 10:30 p.m.*

*Усіх прысутных чакае сьвяточны пачастунак, цікавая музычная праграма, беларускія сьпевы, гульні ды іншае.*

*Кошт уваходу - 60 даляраў. Для сем'яў з дзяцьмі прадугледжаныя зьніжкі.*

*Замовіць квіткі можаце па тэл: 718-859-7201 – Таня Красоўская (калі не дазвоніцеся, пакідайце паведамленьне і свой нумар тэлефону), ці пішыце на email: premiere718@yahoo.com.*

*Непасрэдна можна замовіць і ў будынку Сабору па нядзелях.*



Малюнак Івонкі Сурвіллы

# 20 гадоў дзеля яднаньня беларусаў сьвету

20 гадоў таму, у 1990-м годзе з ініцыятывы грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі паўстала Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына".

Гэта быў лёсаносны для беларускай нацыі час, калі ішло змаганне за адбудову беларускай дзяржаўнасці, час надзеяў, час уздыму нацыянальнай сьвядомасці, абуджэньня цікавасьці да суродзічаў у замежжы. Сярод творчай інтэлігенцыі краіны ўзьнікла думка аб стварэньні арганізацыі, якая займалася б падтрыманьнем сувязяў з дыяспараю.

10 верасня 1990 года адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына". Яна праходзіла ў Доме літаратараў на вуліцы Фрунзе, 5 – тагачасным мейсцы збору беларускай адраджэнскай інтэлігенцыі, дзе стала адбываліся творчыя сустрэчы, вечарыны, канцэрты. Першым прэзідэнтам Згуртавання "Бацькаўшчына" стаў пісьменьнік Васіль Быкаў, старшынём Рады – Яўген Лецка.




Так, упершыню была створана арганізацыя, якая аб'яднала беларусаў на Бацькаўшчыне і ў замежжы. Адчыняліся межы, з цяжкасцю ішло пераадольванне навязанага савецкай прапагандаю стэрэатыпу аб тым, што ўсе, хто жыве за заходняй мяжой, ворагі. Паступова прыходзіла разуменне таго, што беларускае жыццё і самі беларусы ёсць не толькі ў Беларусі, але і ў многіх іншых краінах.

"Прыезд з Нью-Ёрка сьпявака Данчыка, танцавальнага гурта "Васілёк" растапілі лёд недаверу, – узгадвае падзеі таго часу непасрэдная іх удзельніца, сябра Вялікай Рады "Бацькаўшчыны" Ганна Сурмач. – Як вясновы паводак, затапілі патрыятычныя пачуцці не толькі беларускую моладзь, але і старэйшых. Людзі пабачылі і пачулі сваё роднае, адчулі вінаватасць за тое, што не захавалі сваю мову, культуру так, як гэта рабілі беларусы ў Амерыцы. Для нас пачаў адчыняцца сьвет і прыходзіць разуменьне сваёй прысутнасьці і значнасьці ў ім".

У канцы 1992 году Згуртаваньне "Бацькаўшчына" арганізавала Першы сход беларусаў блізкага замежжа, на якім упершыню сустрэліся беларусы з розных краінаў. Удзельнікі Сходу выступілі з ініцыятываю правядзеньня Сусьветнага беларускага форуму. Гэтая ідэя потым была падтрымана і заходняй эміграцыяй. Першы зьезд беларусаў сьвету адбыўся 8-10 ліпеня 1993 г. у Мінску ў будынку Опернага тэатра. Сьведкі гэтай падзеі называюць яе апафеозам яднання Бацькаўшчыны з дыяспарай. Бальшыня заходніх беларусаў прыехалі на Радзіму ўпершыню пасьля выезду на эміграцыю, а іх ужо дарослыя дзеці ўпершыню наведалі зямлю бацькоў. Гэта было сапраўднае сьвята, на якім прысутнічала каля 1500 чалавек (з іх больш за 1000 гасцей з замежжа). У падрыхтоўцы зьезду актыўна дапамагалі і тадышнія дзяржаўныя структуры - міністэрства культуры, міністэрствы інфармацыі, адукацыі, замежных справаў, улады Менска. На франтоне Опернага тэатра, дзе праходзілі пасяджэнні, былі напісаны купалаўскія словы: "На Сход, на Усенародны Сход!" Памяшканне тэатра было аздоблена ў нацыянальным стылі, у фае дзейнічалі мастацкія выставы. Дэлегаты Зьезду з надзеяй глядзелі ў будучыню, марылі, што Першы зьезд ёсьць толькі пачаткам актыўнага нацыянальнага адраджэння.

На жаль, тыя надзеі не спраўдзіліся. Пасля зьмены ўлады ў краіне адносіны да Згуртаваньня "Бацькаўшчына" з боку новых дзяржаўных уладаў рэзка пагоршыліся. Пры арганізацыі наступных зьездаў (1997, 2001, 2005) "Бацькаўшчына" сутыкалася са шматлікімі праблемамі і перашкодамі, неаднаразова паўставала пытаньне аб правядзеньні чарговага зьезду ў суседніх краінах. Арганізацыя была пазбаўлена памяшканьня, перажыла шэсьць пераездаў, вымушана была змагацца за захаваньне Беларускага дому – Міжнароднага цэнтра беларускай дыяспары, створанага агульнымі намаганьнямі беларусаў з Беларусі і замежжа.

Тым не менш, нягледзячы на цяжкасьці, "Бацькаўшчына" змагла пераадолець зьнешнія перашкоды і ўнутраныя супярэчнасьці, праблемы росту, праз якія праходзяць усе грамадзкія арганізацыі. Да сёньня Згуртаваньне захоўвае адданасьць сваім ідэалам, закладзеным яго стваральнікамі, захоўвае адпаведнасць сваёй назве. ЗБС яднае беларусаў больш як у 20-ці краінах сьвету, працуе з 135-ю асяродкамі беларускай дыяспары.

Аглядаючыся на пройдзеныя 20 гадоў, разумееш, як шмат было зроблена за гэты час. Прайшло ажно пяць зьездаў беларусаў сьвету. Гэтыя форумы збіраюць беларусаў з розных краінаў раз у чатыры гады і з'яўляюцца пляцоўкаю для абмеркавання надзённых пытаньняў і праблемаў беларускай дыяспары, наладжваньня супрацоўніцтва паміж беларускімі асяродкамі ў сьвеце і Беларусьсю. Апошні, Пяты зьезд, у якім, акрамя сябраў Згуртаваньня, нарэшце ўзялі ўдзел і прадстаўнікі дзяржаўных органаў, паказаў, што ў стаўленьні дзяржавы да супрацы з беларускай дыяспараю і са Згуртаваньнем "Бацькаўшчына" ёсць некаторыя пазытыўныя зрухі. Паволі выяўляецца адчуваньне зацікаўленасьці з боку дзяржавы ў супрацы з дыяспараю: створаны пры міністэрстве культуры Кансультатыўны савет па справах беларусаў замежжа, Інстытут культуры Беларусі, якія маюць на мэце супрацоўніцтва з беларускімі суполкамі замежжа. У працы Кансультатыўнага савета прымалі ўдзел і прадстаўнікі "Бацькаўшчыны". На падставе прапановаў дэлегатаў Пятага зьезду беларусаў сьвету міністэрствам культуры рыхтуецца новая Праграма "Беларусы ў свеце". Нарэшце, напрыканцы 2009 года аднавіла працу Рабочая група па распрацоўцы закона "Аб беларусах замежжа", у якую ўвайшло і кіраўніцтва "Бацькаўшчыны". Пытанне аб прыняцьці закона, які б рэгуляваў стасункі дыяспары і дзяржавы, "Бацькаўшчына" ўздымала яшчэ ў 2001 годзе, але тады справа далёка не зрушылася і разгляду закона так і не адбылося. Пасля Пятага зьезду адбыліся два пасяджэньні рабочай групы па распрацоўцы закона. Па словах кіраўніка Згуртаваньня "Бацькаўшчына" Алены Макоўскай, большасць прынятых пад час пасяджэньняў фармулёвак сэнсава адпавядаюць прапановам у праект закона "Аб беларусах замежжа", зацвярджаным дэлегатамі Пятага зьезду беларусаў сьвету. Ёсць надзея , што калі праца пойдзе далей, то наступнай восеньню адбудзецца разгляд адпаведнага законапраекта.

Асноўная дзейнасьць Згуртаваньня "Бацькаўшчына" скіраваная на яднаньне беларусаў па ўсім сьвеце ў адзіную супольнасць. За гэтымі высокі словамі хаваецца карпатлівая штодзённая праца. Фактычна, кожны дзень ідзе кантакт з сябрамі "Бацькаўшчыны" ў розных краінах па электроннай пошце, па тэлефоне. Згуртаваньне дапамагае асяродкам беларускай дыяспары ў правядзеньні разнастайных беларускіх мерапрыемстваў, дасылае метадычную літаратуру, перадае беларускія кнігі, у тым ліку і ў беларускія бібліятэкі і школы ў замежжы, арганізуе прыезд беларускіх пісьменнікаў, музыкаў, дэманстрацыю фільмаў, па магчымасці стараецца адказваць на ўсе просьбы, з якімі звяртаюцца да супрацоўнікаў "Бацькаўшчыны" беларусы замежжа.

Штодзённа аднаўляецца сайт арганізацыі – zbsb.org, дзе можна даведацца пра апошнія навіны з жыцьця "Бацькаўшчыны" і беларускіх суполак замежжа, а таксама знайсьці весткі пра беларускія школы, помнікі, музеі, беларускія арганізацыі ў замежжы і іншую цікавую інфармацыю. З 2001 года штомесяц выдаецца інфармацыйны бюлетэнь "Беларусы ў сьвеце" (выйшла 104 нумары), які дасылаецца падпісчыкам у 25 краінаў сьвету. Такім чынам, дзякуючы сайту і бюлетэню беларусы ў Таронта, напрыклад, могуць даведацца пра дзейнасць беларускіх суполак у Іркуцку, Эстоніі ці Аўстраліі. А з гэтага году "Бацькаўшчына" супольна з Саюзам беларускіх пісьменьнікаў пачала выпуск літаратурнага бюлетэня "Кніганоша", прысьвечанага навінкам беларускамоўнага друку. "Кніганоша" рассылаецца па грамадскіх бібліятэках і бібліятэках пры навучальных установах па ўсёй Беларусі, а таксама па асяродках беларускай дыяспары, беларускіх бібліятэках і кафедрах ВНУ у замежжы.

Яднаньне – працэс двухбаковы, і ў гэтым сэнсе "Бацькаўшчына" стараецца не толькі падтрымліваць кантакты з суродзічамі ў замежжы, каб інфармаваць іх пра жыцьцё на Радзіме, але і папулярызуе дзейнасць беларускіх суполак замежжа ў самой Беларусі. З гэтай мэтай у Беларусі праводзяцца прэзентацыі кніг замежных беларускіх пісьменьнікаў , адзначэнне юбілейных датаў, вечарын памяці, экспазіцыі ў музеях, мастацкія выставы, прысьвечаныя творчасьці беларусаў замежжа.

У гэтым годзе "Бацькаўшчынаю" быў распачаты шэраг сустрэчаў з выбітнымі дзеячамі беларускага замежжа. Ужо адбыліся сустрэчы са старшынём Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведарам Нюнькам, айцом Аляксандрам Надсанам, старшынём ІТБК імя Яна Чэрскага Алегам Рудаковым, стваральнікам і каардынатарам Беларускай Інтэрнет-Бібліятэкі Kamunikat.org Яраславам Іванюком і яго калегаю НаталляйГерасімюк.

На жаль, у Беларусі па-ранейшаму мала ведаюць пра вялізны ўнёсак беларускай эміграцыі ў разьвіцьцё нацыі. Адна з прычын такой сітуацыі палягае ў адсутнасці спецыяльнай навуковай установы, якая б вывучала гісторыю і сучаснасць беларускай дыяспары, зьбірала і сістэматызавала набыткі беларускага замежжа. Нягледзячы на пэўныя зрухі ў стаўленьні да дыяспары з боку дзяржаўных органаў і разуменне патрэбы ў кантакце і супрацоўніцтве, існуе праблема, звязаная з адсутнасцю спецыялістаў па дыяспары, якія б займаліся аналізам працэсаў, што адбываюцца ў асяродках беларусаў замежжа. Часткова такую функцыю ўзяла на сябе "Бацькаўшчына" заснаваўшы ў 2004 годзе ўнікальную кніжную серыю "Бібліятэка Бацькаўшчыны", у межах якой ужо выйшла два дзесяткі кніг. Гэтыя кнігі распавядаюць пра гісторыю, літаратуру, адукацыю, друк, грамадскае жыццё беларусаў у той ці іншай краіне, знаёмяць з вядомымі беларусамі замежжа. Выданьне кожнай з іх – сапраўдная падзея, якой папярэднічае доўгая праца дасьледчыкаў. Акрамя серыйных, выйшла яшчэ 37 кніг, прысьвечаных вядомым людзям Беларусі, яе культуры і гісторыі, а таксама 7 зборнікаў твораў дзяцей-пераможцаў конкурсаў, арганізаваных Згуртаваньнем.

Яшчэ адзін крок па набліжэньні беларускага замежжа да Беларусі – стварэнне электроннай бібліятэкі беларускай дыяспары. Яна ўтрымлівае каля 800 найменьняў розных кніг, часопісаў, артыкулаў, выдадзеных нашымі суродзічамі ў замежжы.

Шмат год працуючы на ніве беларушчыны, сябры "Бацькаўшчыны" добра асэнсоўвалі, што працэсы асіміляцыі, якія ідуць ў асяродках беларускай дыяспары, адбываюцца ў першую чаргу па прычыне слабай нацыянальнай ідэнтыфікацыі беларусаў унутры краіны. Тады "Бацькаўшчына" і шэраг іншых грамадзкіх арганізацый вырашылі аб'яднаць свае намаганьні і праводзіць супольныя культурныя і грамадскія акцыі пад агульным слоганам "Будзьма беларусамі!" дзеля дасягненьня агульнай мэты – яднаньня беларусаў на глебе павагі да сваёй мовы, культуры, традыцый. Каардынатары кампаніі імкнуліся падштурхнуць неабыякавых людзей задумацца над тым, што азначае быць беларусам, што нас яднае апроч пашпарту і дзяржаўных межаў. Аказалася, што прыхільнікаў беларускай ідэі нашмат болей, чым думалі ініцыятары кампаніі.

"Мы ведалі, што ў Беларусі актыўных прыхільнікаў беларускай ідэі багата, але каб так шмат! Запатрабаванасьць у сучаснай беларускай культуры проста неверагодная, лісты з просьбамі і прапановамі арганізаваць культурную імпрэзу ідуць з усіх куткоў Беларусі, як з вёсак, гэтак і з вялікіх гарадоў", – гаворыць старшыня Рады "Бацькаўшчыны", каардынатар кампаніі "Будзьма беларусамі!" Ніна Шыдлоўская.

За два гады дзейнасці "Будзьмы" некалькі дзесяткаў тысяч чалавек "прайшлі" праз мерапрыемствы кампаніі – канцэрты музычных гуртоў, лекцыі на тэму гісторыі і культуры Беларусі, рэгіянальныя акцыі для падтрымкі сучасных моладзевых ініцыятыў, літаратурныя сустрэчы, шматлікія арт-прэзентацыі. Дзякуючы гэтым імпрэзам шмат людзей па ўсёй Беларусі ўпершыню адкрылі для сябе мноства творцаў і творчых праектаў сучаснай беларускай культуры.

Напрыканцы хочацца прыгадаць словы былой старшыні Рады Згуртаваньня Ганны Сурмач, выказаныя ёю з нагоды 20-й гадавіны "Бацькаўшчыны": "Калі б нават, ня дай Божа, дайшло да таго, што ЗБС спыніла сваё існаванне, закладзены ім працэс ужо нельга перапыніць. Сёння ўспрымаецца як звычайная справа, што беларусы з розных краінаў і з метраполіі знаёмыя між сабою, вольна кантактуюць, узаемна дапамагаюць, ладзяць розныя супольныя імпрэзы. Мы прысутныя як адзіная нацыя ў шырокім свеце!".

Хаця чаму напрыканцы? Бо што такое 20 гадоў? Гэта толькі пачатак сталеньня, пачатак новага этапу жыцьцёвага шляху. Усё яшчэ наперадзе!

Мы верым у тое, што "Бацькаўшчыне" жыць, пакуль жывуць беларусы!

*Таццяна Печанко,*
*прэс-сакратар МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"*

Свой 20-гадовы юбілей Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" адзначыла 26 лістапада 2010 урачыстаю імпрэзаю ў Рэспубліканскім цэнтры нацыянальных культур. На святочную вечарыну сабраліся сябры Згуртаваньня, пісьменнікі, грамадскія дзеячы, прадстаўнікі амбасадаў і міністэрстваў, беларусы з Украіны, Польшчы, Расеі, Эстоніі, Літвы.
Распачала імпрэзу кіраўнік Згуртаваньня Алена Макоўская. У сваёй прамове яна адзначыла асноўныя дасягеньні "Бацькаўшчыны" і выказала падзяку тым, хто ў розныя гады стаяў на чале Згуртаваньня. Далей з прывітальнымі словамі і ўспамінамі выступіла былы прэзыдэнт ЗБС акадэмік Радзім Гарэцкі, паэт Генадзь Бураўкін, гісторык Алег Трусаў, літаратуразнаўца Лідзія Савік, госьці з замежжа – Яўген Вапа (Польшча), Валеры Казакоў (Расея),Лілія Плыгаўка (Літва), Зінаіда Клыга (Эстонія) і інш. Былі зачытаныя пісьмовыя прывітаньні, дасланыя з розных краінаў, а таксама паказаныя відэазвароты.


Выступае кіраўнік МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская


Радзім Гарэцкі: "Нам патрэбны беларускамоўны прэзідэнт!"

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла даслала для вечарыны свой аўдыёзварот з віншаваньнем
Ад дзяржаўных структураў на вечарыне прысутнічаў міністр культуры Павел Латушка Пад час свайго выступу ён паабяцаў, што ў далейшым падтрымка беларусаў замежжа з боку дзяржавы будзе ўзмацняцца
Стварылі сьвяточны настрой ды віншавалі "Бацькаўшчыну" і музыкі: гурт "Стары Ольса", Алесь Камоцкі, Зьміцер Сідаровіч, цымбалістка Зінаіда Савяцяева, Лявон Вольскі ды музыкі з "Крамбамбулі", гурт "Унія".
Пасля імпрэзы падчас нефармальнай часткі адбываліся гутаркі з гасцямі імпрэзы, кіраўнікі ЗБС - Алена Макоўская і Ніна Шыдлоўская абмяркоўвалі з прадстаўнікамі беларускіх суполак пляны на далейшую супрацу.


"Стары Ольса"

Выступае Павел Латушка

*Паводле Інфармацыйнага цэнтру ЗБС "Бацькаўшчына"*

## Віншуем з Калядамі і Новым годам!

Каляды ды Новы год – сьвяты, ад якіх заўжды, з самага дзяцінства, чакаеш цудаў, якія прыносяць аднаўленне, даюць магчымасць на хвіліну спыніцца ды асэнсаваць зробленае за год і галоўнае, напэўна, для многіх з нас – гэта добрая нагода сабрацца разам з самымі блізкімі і дарагімі людзьмі.
Жадаем вам, шаноўныя суайчыннікі, каб гэтыя святы і надзыходзячы год прынеслі з сабой як мага болей радасных падзей. Шчасця вам, моцнага здароўя, далейшых посьпехаў у працы на карысць роднай Беларусі! Няхай сэрцы поўняцца самымі светлымі пачуцьцямі, няхай здараюцца цуды, і надыходзячы год будзе годам здзяйснення вашых лепшых мараў!

*Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына"*

## Управа Бруклінскага аддзелу БАЗА

Запрашае на чарговы штомесячны Сход, які адбудзецца 19 сьнежня 2010 ў царкоўна-грамадзкай залі Сабору св. Кірылы Тураўскага на Atlatic Ave 401 а 1:00. (даезд трэйнамі: A,C,G – Hoyt-Schermerhorn, B,Q – Atlantic Ave, F – Bergen Str.)
Галоўная тэма Сходу: "Беларусь перад выбарам" (разам назіраем за выбарамі ў Беларусі). Абмеркаваньні , інфармацыі, сьвежыя навіны пра ход выбараў.

8 сьнежня ў Фундацыі Карнэгі прайшоў дыялёг экспертаў на тэму "Беларусь перад выбарамі". Галоўнымі прамоўцамі былі – палітоляг Віталь Сіліцкі ад Беларускага Інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў (BISS), міжнародны эканамічны дарадца Аляксандр Чубрык і дырэктар аддзелу Эўразіі пры Фундацыі Карнэгі Джэймс Колінз (James Collins), які добра знаёмы беларуска-амэрыканскаму грамадзтву з 90-х гадоў. У складзе дэлегацыі з Беларусі былі таксама эканаміст Павал Данэйка, рэдактар "Нашай Нівы" Андрэй Дынько і Жанна Літвіна ад Беларускай Асацыяцыі журанлістаў.
Удзельнікі пагадзіліся наконт пільнай неабходнасьці палітычных і эканамічных рэформаў ў Беларусі, прыцягненьні замежных нерасейскіх інвэстыцый і дывэрсыфікацыі энэргетычных рэсурсаў.
Джэймс Колінз заявіў, што ЗША павінна пасьля выбараў зьмяніць свой падыход да Беларусі.
Ад БАЗА на імпрэзе прысутнічалі Вячка Станкевіч(Галоўная управа) і Вячаслаў Бортнік (Вашынгтонскі гурток)

*Ганна Сурмач*

Усім сябром і знаёмым зычаць Вясёлых Калядаў і посьпехаў у Новым годзе -

*Вячка і Джоэн Станкевічы*

Вясёлых Калядаў, Шчасьлівага Новага году ўсім сваякам, прыяцелям ды знаёмым у Амэрыцы, Беларусі і па цэлым сьвеце сардэчна жадае

*Юля Андрусышын*

Навагоднія й калядныя віншаваньні сябрам і знаёмым выказваюць:
сям'я Алеся Міцкевіча
др. Вітаўт Кіпель
сям'я др. Юркі й Ларэйн Кіпеляў
др. Янка й Надзя Запруднікі

Віншуе ўсіх сяброў і знаёмых з Калядамі і Новым Годам! Зычым усім здароўя і посьпехаў ва ўсіх асабістых і грамадзкіх справах.

*Адрусь, Галіна, Паўліна і Даніла Падлескія*

## Беларуская ялінка на фэстывалі ў Нью-Джэрзы

5 сьнежня ў Музэі амэрыканска-вугорскай фундацыі (New Brunswick, NJ, USA) адбылося адкрыцьцё 22-га фэстывалю калядных ялінак. Прадстаўнікі 12 розных этнічныхсупольнасьцяў штата Нью Джэрзы ўпрыгожылі дрэўцы ў сваім нацыянальным каларыце, такім чынам можна было пабачыць беларускую, вугорскую, дацкую, латыскую, лаціна-амэрыканскую, летувіскую, польскую, украінскую, фінскую, харвацкую, швэдзкую і эстонскую ялінкі.



Першай сустрэла наведвальнікаў музэю гаспадыня – вугорская ялінка, упрыгожаная карункамі. За ёю ішла беларуская прыгажуня, убраная ў саламяныя вяночкі, званочкі, цацкі і гірлянды, на верхаліне ялінкі зьзяла калядная зорка, таксама з саломы. Многія спыняліся, каб паглядзець бліжэй і сфатаграфаваць няпростую работу беларускіхмайстроў. Сярод іншых упрыгожваньняў варта зазначыць украінскія вышываныя рушнічкі і латыскія лялькі. Папулярным быў матыў нацыянальных колераў, так на харвацкай, швэдскай і дацкай ялінках можна было заўважыць ланцужкі з мностваm нацыянальныхсьцяжкоў. Цікавую інфармацыю пра калядныя звычаі можна было прачытаць у каталёгу. Артыкул пра Беларусь распавядае пра традыцыйныя калядныя стравы (куцьцю, кісель, ламанцы з макам) і батлейку. Вельмі прыемна, што Беларусь прадстаўлена на гэтым міжнародным фэстывалі і розныя людзі маюць магчымасць даведацца больш пра нашу краіну і яе багатую культуру. За гэта варта ўзгадаць сьв. пам. сп. Галіну Русак, якая запачатквала ўдзел беларусаў у гэтым фэстывалі. Сёлета падзяка належыцца Сяржуку і Валянціне Трыгубовічам, якія працягваюць справу, трымаюць сувязь з фундацыяй і ўпрыгожваюцьбеларускую ялінку для ўдзелу ў гэтым фэстывалі.
Выстава будзе адкрытай да 30 студзеня 2011 года. Ласкава просім!

*Вера Мацкевіч*

## БТ не паказвала беларусам замежжа выступы кандыдатаў ў прэзыдэнты

Няма выступаў і на сайце Белтэлерадыёкампаніі.
Беларусы за мяжою не маглі глядзець выступленьні кандыдатаў ў наўпроставым эфіры, Гэта зьвязана з тым, што выступленьні не трансляваліся на спадарожнікі і тэлеканал "Беларусь-ТВ", разьлічаны на замежнага гледача.
Кіраўнік прэс-службы БТ Сьвятлана Смалонская-Краскоўская патлумачыла, што выступленьні праходзяць ў адпаведнасьці з пастановаю Цэнтрвыбаркама. У ім сказана, што выступы кандыдатаў транслююцца на Першым нацыянальным тэлеканале. Аб замежжы ў пастанове нічога не напісана, а самадзейнасьцю на тэлеканале не займаюцца, заўважыла кіраўнік прэс-службы.

*Паводле сайту Хартыя97 25.11.2010*

## Беларусь 2010-ых: выклікі пераменаў і шляхі да посьпеху

Чацьвёртая штогадовая канферэнцыя Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледваньняў (BISS, Літва)
1-2 сакавіка 2011, Мінск, Беларусь

Праз дваццаць гадоў пасля атрымання незалежнасьці беларускае грамадзтва і кіруючая эліта апынуліся перад якасна новымі выклікамі развіцьця.
Калі Беларусь імкнецца ўвайсці ў шэрагі найбольш развітых краінаў сьвету з найлепшым бізнэс-кліматам і найвышэйшым узроўнем чалавечага развіцьця, якія інстытуты і палітыкі, знешнепалітычныя саюзы і мадэлі адносінаў паміж дзяржавай і грамадзтвам будуць найбольш адпавядаць гэтым мэтам? Ці зможа краіна дасягнуць гэтых амбітных мэтаў толькі нязначна змяніўшы палітычную і эканамічную сістэмы? Ці з'яўляецца ўстойлівым балансаваньне паміж Усходам і Захадам, асабліва ў зьвязку са зьменамі ў пазыцыі і дзеяньнях Расеі? Хто з суседзяў Беларусі (у прыватнасьці, Расея ці Эўрапейскі Зьвяз) можа стаць ключавым партнёрам ў мадэрнізацыі і развіцьці краіны? Або Беларусь жадае зрабіцца Эўрапейскім Кітаем?
1-2 сакавіка 2011 года адбудзецца чацвёртая штогадовая канферэнцыя BISS. Афіцыйныя асобы, эксперты, навукоўцы з Беларусі, Расеі, Украіны, Эўрапейскага Зьвязу і Паўночнай Амерыкі абмяркуюць новую эканамічную, сацыяльную і геапалітычную сітуацыю, ў якой Беларусь апынулася ў выніку працяглага канфлікту з Расеяй і пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010, а таксама ацэняць, як новыя рэаліі паўплываюць на амбітныя мэты развіцьця краіны.
Дыскусіі пад час канферэнцыі будуць засяроджвацца на трох тэматычных блёках: эканамічная рэформа, адукацыя і развіцьцё чалавечага капіталу, энэргетычная бяспека. Мэта канферэнцыйных дыскусіяў – дасягнуць экспертнага кансэнсусу наконт таго, якія інстытуты і палітыкі, знешнепалітычныя саюзы і мадэлі адносінаў паміж дзяржавай і грамадзтвам будуць найбольш адпавядаць мэтам развіцьця ў кожнай з гэтых сфераў палітыкі, а таксама прыступіць да фармулявання парадку дня рэфармаваньня Беларусі, які б атрымаў унутраную і вонкавую падтрымку.
Калі ласка, зарэзервуйце сабе гэтую дату і далучайцеся да нас 1-2 сакавіка 2011 г.
З павагай,

*Павел Данэйка , Старшыня Рады BISS*
*Віталь Сіліцкі, Навуковы дырэктар BISS*

## Іркуцкае Таварыства Беларускай Культуры імя Я.Д. Чэрскага

Ладзіць 16-18 сьнежня 2010 Міжнародную навукова- практычную канфэрэнцыю на тэму "100-годдзе Сталыпінскай рэформы – самага массавага перасяленьня беларусаў ў Прыбайкальле". Інфармацыю пра канфэрэнцыю падамо ў наступным выпуску газэты.

## У Празе пачаліся рэгулярныя беларускія набажэнствы

26 верасьня 2010 у пражскай царкве Сьв. Кузьмы і Дзям'яна ўніяцкі сьвятар а. Андрэй Абламейка пачаў рэгулярныя беларускія набажэнствы. Службы адбываюцца кожную апошнюю нядзелю месяца.
Пасьля Літургіяў праводзяцца заняткі нядзельнай школы для дзяцей імя Сьв. Эўфрасіньні Полацкай.
25 сьнежня 2010 года адбудзецца сьвяткаваньне Раства Хрыстова для беларусаў у Празе. Пасьля Боскай Літургіі запрашаюцца дзеці і бацькі да ўдзелу ў Калядцай містэрыі. (Сьвяты Мікола, салодкі стол і калядныя падарункі)
Адрас: Царква сьвятых Кузьмы і Дзям'яна – Vyšehradská 49, Praha 2.

*Паводле часапіса "Крывія" №19 за 2010*

## Французы ўпершыню выпусьцілі турыстычны даведнік па Беларусі

Першы турыстычны даведнік па Беларусі выдадзены ў Францыі сумесна з беларускім Нацыянальным агенцтвам па турызму.
Кніга выдадзена на французскай мове тыражом у некалькі тысяч асобнікаў. Беларусь прадстаўлена як цікавы, але пакуль малавядомы французскаму турысту накірунак.
Аўтары асабліва адзначылі прыгажосьць беларускай прыроды, гасьціннасьць жыхароў краіны, яе багатую і разнастайную культуру.
Акрамя таго, у даведніку апісаныя найбольш вядомыя мясьціны краіны, падаецца шмат практычнай інфармацыі. Таксама ёсьць невялікі слоўнічак і прыгожыя фота беларускіх краявідаў, якія могуць прывабіць французскіх турыстаў.

*Паводле Tut. by 8 сьнежня 2010*

## Артыкул Алесі Кіпель

У амэрыканскім прафэсійным часапісе The Journal of Commerce (Nov. 23, 2010) выдрукаваны артыкул сп-чні Алесі Кіпель пад заг. "Капаючы глыбей у дэмпінгавы экспарт". Аўтарка , адвакат па спэцыяльнасьці (і актывістка БАЗА), выказвае перасьцярогу ў тым, што завышаныя экспартныя цэны могуць стацца юрыдычнай праблемай для амэрыканскіх кампаніяў, якія ў гэтым дэмпінгу ўдзельнічаюць.

## У Хрыстафора Калюмба знайшлі беларускія карані




Амерыканскі гісторык даказаў, што дзедам першаадкрывальніка быў Ягайла! Цяпер ён хоча зрабіць аналіз ДНК.
Мануэль Роза (Manuel Rosa) у сваёй новай кнізе даводзіць, што выкрыў таямніцу паходжання першаадкрывальніка Амерыкі. Ён абвяргае ранейшую тэорыю, што Хрыстафор паходзіць з італьянскай Генуі.
У сваёй працы "Калумб. Ніколі не казаная гісторыя" ("Colon. La Historia Nunca Contada") амерыканскі гісторык партугальскага паходжання, прааналізаваўшы сярэднявечныя дакументы і хронікі, даводзіць, што ягоны бацька — прыгодніцкі кароль Уладзіслаў III, а дзед — кароль Польшчы і Вялікага княства Літоўскага Ягайла.
Нагадаем, бацькам Ягайлы быў Альгерд, маці — князёўна Ульяна Цвярская. У 1385 годзе ў замку Крэва (цяперашні Смаргонскі раён) ён заключыў унію паміж Польшчай і ВКЛ.
Паводле Мануэля Розы, сын Ягайлы, польскі кароль Уладзіслаў III не загінуў у бітве з туркамі ў 1444 годзе, але збег і пасяліўся на партугальскай Мадэйры. Там ён ажаніўся з заможнай партугалкай і стаў бацькам Калумба.
Гэтая тэорыя дапамагае зразумець, чаму Калумб ажаніўся на заможнай партугальскай арыстакратцы, і іх шлюб быў зацверджаны партугальскім каралём, перакананы Мануэль Роза. Да таго ж герб Калумба падобны на герб Уладзіслава. Ды і сам вандроўнік выглядаў усходнееўрапейцам: са светлай скурай і блакітнымі вачыма. Сам ён хаваў сваё паходжанне, каб не выкрыць свайго бацьку.
Каб давесці сваю тэорыю, даследчык хоча параўнаць ДНК Ягайлы (запыт ужо скіраваны ў Кракаў) і сыноў Калумба, пахаваных у Севільі.

*Паводле Эўрапейскага радыё для Беларусі 30.11.2010*

## Беларускую "Пагоню" сьпявалі ў Індыі

На Сусьветнай маладзёвай сустрэчы , якая адбывалася напрыканцы лістапада – пачатку сьнежня ў Індыі, прагучала беларуская "Пагоня". Яе выканалі малады дзяўчаты і хлопцы з розных краінаў па- беларуску, кожны свой радок.
Напярэдадні дня нараджэньня Максіма Багдановіча для Беларусі сьпявала моладзь з Амэрыкі, Паўднёвай Афрыкі, Лаоса, Індыі, Туркменіі, Лівана, Саламонавых выспаў, Камбоджы, Тога, Палестыны, Егіпта, Інданэзіі, Аўстраліі, Зімбабве, Філіпін і інш. Краінаў.
Дзея была запісаная на відэа, якое было выстаўленая ў Інтэрнэце, і можна было бачыць з якім захапленьнем моладзь сьпявала па-беларуску.

*Паводле сайту Хартыя97 2 сьнежня 2010*

## CNN запрашае на Каляды ў Беларусь

Беларуская вёска Пагост трапіла ў рэйтынг 10 найлепшых месцаў на сьвеце для адзначэньня сёлетніх Калядаў, складзены кампаніяй CNN. Там, паводле CNN, можна паглядзець старажытны калядны абрад з элемэнтамі паганства.
Складальнікі не канкрэтызуюць, які менавіта зь беларускіх Пагостаў яны маюць на ўвазе, але з іншых інфармацый можна меркаваць, што CNN запрашае ў Пагост Жыткавіцкага раёну.
У праваднiку CNN, беларускі Пагост займае трэці радок, апярэджваючы Зальцбург, Сыднэй, Нью-Ёрк, Ганконг, пуэрта-рыканскі Сан-Хуан, Лёндан і Бостан. Папераздзе Пагосту ў рэйтынгу – нямецкі Нюрнбэрг і ісьляндзкі Рэйк'явік.
CNN рэкамэндуе наведаць Пагост у пэрыяд з 25 сьнежня да 7 студзеня.

## Імпрэза ў ТБК Літвы

30 кастрычніка адбылася трыдыцыйная сустрэча беларусаў Літвы на сядзібе Таварыства беларускай культуры. Гэтым разам імпрэза была прысьвечана людзям і падзеям, што зьвязаныя з лёсам Беларусі і адбыліся на працягу кастрычніка.
Сустрэчу распачаў прывітальным словам старшыня Таварыства Беларускай Культуры сп. Хведар Нюнька. Кіраўнік таварыства закрануў шэраг істотных пытаньняў дзеля беларускай грамады Вільні. Так спадар Хведар Нюнька выказаў надзею на супрацу беларускай супольнасьці Літвы з міністэрствам культуры Літвы па праблематыцы аднаўленьня дзейнасьці Беларускага музею імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Старшыня ТБК таксама закрануў пытаньне аб усталяваньні мемарыяльнай шыльды ў гонар беларускага ксяндза Адама Станкевіча на адным з касьцёлаў у Вільні. ТБК дамаглося падтрымкі з боку Аб'яднаньня нацыянальных меншыняў Літвы, якое выступіла з агульным лістом на імя Віленскай Курыі з просьбай аб атрыманьні дазволу на камемарацыю вядомага беларускага дзеяча.



Цёплымі словамі ўзгадаў Хв. Нюнька сьв.пам. старшыню Таварыства Беларускай Мовы – Юрыя Гіля, якога ўжо як год няма з намі. Дзякуючы яго намаганьням быў атрыманы дазвол і намаганьнямі спадкаемцаў справы, ўсталявана дошка ў гонар беларускага паэта і пісьменьніка – Францішка Багушэвіча. Да прагляду прысутных была прапанаваная кароткачасовая дакумэнтальная стужка пра жыцьцё і дзейнасьць Юрыя Гіля-самаадданага беларуса і творчай асобы.
Сустрэчу працягнуў студэнт ЭГУ Юрась Юркевіч, які прысьвяціў частку свайго выступу Другой Усебеларускай Канферэнцыі, што адбылася ў Берліне ў 1925 годзе. Магістрант зьвярнуў увагу на той факт, што рашэньні аб роспуску Рады і Урада Беларускай Народнай Рэспублікі не маюць сілы. Вынікі канфэрэнцыі не былі зацьверджаны вышэйшым органам БНР - Прэзыдыюмам Рады БНР, а сымбаль дзяржаўнасьці - пячатка - засталася ў Пятра Крэчэўскага, потым яна перадавалася наступным старшыням Рады БНР.
Дактарант Віленскага Педагагічнага Унівэрсітэта Алесь Адамковіч распавёў пра цікавае дзяржаўнае ўтварэньне – Сярэднюю Літву. Такая краіна паўстала ў кастрычніку 1920 г. як вынік узаемадзеяньня фэдэралісцкай канцэпцыі Юзэфа Пілсудзкага з вайскоўцамі і палітычнымі рэаліямі 1918—1920 гадоў. Так, на думку начальніка Польскай дзяржавы магла паўстаць яшчэ і Усходняя Літва, на чале з генэралам Булак-Балаховічам, але гэтага не адбылося.
Алесь Адамковіч зьвяруў увагу прысутных на беларускі складнік новаўтварэньня 20-ых гадоў. На тэрыторыі ў 14 кв.км пражывала больш за 40% беларусаў, беларуская мова сталася дзяржаўнай як і польская. За кароткі час былі адчыненыя некалькі сотняў школ з беларускай мовай навучаньня – усё гэта заклала трывалы падмурак дзеля станаўленьня беларускасьці ўвогуле і цэнтру беларускага космасу – гімназіі ў Вільні.
Другую частку свайго выступу Алесь прысьвяціў жыцьцю і дзейнасьці беларускага сьвятара і публіцыста – Віктара Шутовіча. Ён нарадзіўся ў Ашмянскім павеце і быў высьвечаны ў 1913 г. у Вільні. Малады Шутовіч хутка далучыўся да руху беларусізацыі касьцёлу і быў асуджаны польскімі ўладамі за казаньні на беларускай мове. У 1932 годзе Віктара Шутовіча касьцёльныя ўлады пераводзяць далей ад Віленшчыны ў якасьці прэфэкта ў Хорашчы каля Беластоку. Кароткі час Шутовіч служыў у Чырвоным касьцёле, аднак быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў зьняволяньня Савецкімі ўладамі. Пасьля вяртаньня ў 1955 асеў у Барысаве, дзе нелегальна праводзіў імшу на каталіцкіх могілках, дзе і сам зараз пахаваны.
Наступным распавёў аб палітычным становішчы ў Беларусі палітоляг Артур Юдзіцкі. Малады фахавец паліталогіі адзначыў "тэатральнасьць" і непразрыстасьць бягучай прэзідэнцкай кампаніі і пэўную прадвызначанасьць народнага выбару. Артур зьвярнуў увагу прысутных на напампоўваньне Беларусі грашыма з непадзелянага мыта Мытнага зьвязу, што распачаў сваю дзейнасьць ад 1-га ліпеня. Фактычна Расеяй выдзелена бягучая пазыка ў якасьці буфэра дзеля крокаў у сацыяльнай галіне з боку існуючай беларускай улады.
Сустрэчу завяршыў студэнт Юрась Юркевіч словамі пра апошні падзел Рэчы Паспалітай у 1795 г. Малады гісторык вызначыў асноўныя сюжэты ўрокаў гісторыі дзеля сёньняшняга дня і будучыні, адказнасьці эліт за лёсы дзяржавы і народа, а таксама праблемы легітымнасьці ўлады.

*Юрась Юркевіч*
*Вільня*

## Сьв. пам. Іван Нікітчанка
**(10 студзеня 1939 – 20 лістапада 2010)**



20 лістапада 2010 ў аўтамабільнай аварыі пад Маладзечна загінуў Іван Нікітчанка, член-карэспандэнт Акадэмі навук Беларусі, прафесар, старшыня Цэнтру падтрымкі чарнобыльскіх ініцыятываў, вядомы навуковец і грамадзкі дзеяч, які гаварыў праўду пра сапраўдную небясьпеку для Беларусі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы і змагаўся за тое, каб яна не замоўчвалася.
Іван Нікітчанка нарадзіўся 10 студзеня 1939 году ў Бранскай вобласьці. Скончыў Віцебскі вэтэрынарны інстытут (1960), доктар сельскагаспадарчых навук (1979), прафэсар, член-карэспандэнт Акадэміі навук Беларусі (з 1986). Ляўрэат дзяржаўнай прэміі СССР (1982). У першай палове 1990-х гадоў уваходзіў у склад ценевага кабінэту апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII склікаеньня. Доўгія гады ўзначальваў арганізацыйныя камітэты для правядзеньня "Чарнобыльскага шляху". Крытыкаваў пляны пабудовы ў Беларусі атамнай электрастанцыі.
Падчас сёлетняй выбарчай кампаніі ўвайшоў у лік даверанных асобаў кандыдата ў прэзыдэнты ад партыі "Беларуская хрысьціянская дэмакратыя" Віталя Рымашэўскага. Гэты крок тлумачыў тым, што менавіта Рымашэўскі найбольшую ў параўнаньні зь іншымі кандыдатамі ўвагу аддае пытаньням пераадоленьня наступстваў Чарнобыльскай аварыі.

*Паводле Радыё Свабода*
*20 лістапада 2010*

## Разьвітаньне з Радзімаю

Адзінаццаць гадоў жыцьця ў эміграцыі не аддалілі мяне так ад маёй краіны, дзе нарадзілася і вырасла, ад Беларусі, якую не бачыла цягам усіх гэтых гадоў, як гэтыя некалькі дзён у сярэдзіне сёлетняга лістапада. Памерла мая маці Валянціна, абарвалася жывая повязь, тая пупавіна, якая лучыла мяне з родным домам. Прыйшло разуменьне, што сапраўднае разьвітаньне з Радзімаю адбываецца не тады, калі пакідаеш яе межы, а тады, калі там не застаецца родных, блізкіх,сяброў. Як асеньнія лісты ападаюць, адыходзяць у лепшы сьвет адзін за другім тыя, з кім пачыналася тваё жыцьцё, прайшло юнацтва і сталеньне. Здавалася, што ўсе яны будуць жыць вечна, што заўсёды магу пазваніць і пачуць іх голас, пагаварыць так, як быццам не было гэтых доўгіх гадоў разлукі.
Шэсьць гадоў таму ў такія ж халодныя лістападаўскія дні не стала майго адзінага малодшага брата Паўла. Шэрым ранкам яго знайшлі на вуліцы з прабітаю галавою, праз тыдзень ён памёр у шпіталі, так і не прыйшоўшы ў сябе. Забойцу не знайшлі, ды і не стараліся знайсьці, так і закрылі справу. Цяпер мае бацька, маці і брат ляжаць побач на вясковых могілках.
Не была я на пахаваньні ні брата, ні маці, не кінула на іх магілкі жменю зямлі, не разьвіталася, як належыць. Бо давялося мне пакідаць маю Радзіму не па ўласнай волі і шукаць прытулку на чужыне.
Тысячы людзей зьехалі з Беларусі за гэтыя гады вяртаньня ў мінулае, бо не маглі заставацца на Радзіме, не мелі надзеі збудаваць там годнае жыцьцё, ці, як я сама, удзельнікі апазыцыйнага руху. Колькі нас такіх па сьвеце, хто не змог і не зможа правесьці ў апошні шлях сваіх родных. Гэтая рана застаецца на ўсё жыцьцё. Разбураныя семьі, разбураныя жыцьці – яшчэ адзін сумны вынік панаваньня дыктатарскага рэжыму ў Беларусі.

*Ганна Сурмач*
*Нью-Ёрк*



# ДАРАГІЯ ДЗЕТКІ!

## Віншуем вас з Калядамі – сьвятам Божага нараджэньня!

## ВЫЦІНАНКА КАЛЯДНАЯ ЯЛІНКА




**Выцінанкі** – традыцыйнае народнае мастацтва Беларусі. Выцінанка – гэта ажурны ўзор, выстрыжаны з паперы. У кожнай мясцовасці выцінанка набывала свае асаблівасці, уласцівыя светаўспрыманню людзей, якія там жылі. Людзі ўпрыгожвалі выцінанкамі сьцены і вокны. Невялічкую выцінанку можна наклеіць на каляровую паперу і атрымаецца прыгожая саматробная Калядная паштоўка. Вы ўжо, напэўна, не раз выразалі з белай паперы сьняжынкі. Прапануем вам выцінанку – калядную ялінку. Вам спатрэбяцца каляровая папера, нажніцы і клей.

1. Складзіце невялічкі аркуш зялёнай паперы ўдвая і намалюйце палову ялінкі (глядзі малюнак А).
2. Выражце ялінку і раскрыйце.
3. Наклейце ялінку на каляровую паперу.
4. Выражце малюпасенькі квадрацік жоўтай паперы (памерам з зорку для вашай ялінкі), складзі ў чатыры столкі і намалюй абрысы зоркі (глядзі малюнак В).
5. Выражце зорку і наклейце на вершаліну.
6. З рознакаляровай паперы выражце ўпрыгожаньні (кружочкі, званочкі, ромбікі і г.д.) і наклейце на ялінку. Колькасьць упрыгожаньняў зьлева мусіць быць такой як і справа.




*Падрыхтавала Галіна Падлеская*




## НАРАДЗІЎСЯ НАМ ХРЫСТОС

Усявышні нам рашэньне
Весткай радаснай прынёс,
Што для нашага збаўленьня
Нарадзіўся нам Хрыстос.

У спрадвечнай моцы Бога
Будзе наш няўхільны лёс.
Каб прыходзіць з дапамогай,
Нарадзіўся нам Хрыстос.

Хай плывуць хутчэй калядкі
Да самюсенькіх нябёс.
Славім Божае Дзіцятка:
Нарадзіўся нам Хрыстос!

Ад хаціны да хаціны,
Хоць і на двары мароз,
Богу аддаем павіннасьць:
Нарадзіўся нам Хрыстос.

*Віктар Шведъ*

# ЖАДАЕМ ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЦЯ Ў НОВЫМ ГОДЗЕ!

## Каляндар памятных датаў на студзень 2011

### 1 студзеня

Новы год.

50 гадоў таму, у 1961 годзе, нарадзіўся Ігар Гермянчук - журналіст, грамадзка- палітычны дзеяч перыяду новага беларускага Адраджэньня, галоўны рэдактар апазыцыйных савецкаму рэжыму газэтаў "Свабода", "Навіны", часапіса "Кур'ер", дэпутат Вярхоўнага Савета БССР 12-га скліканьня.

### 2 студзеня

150 гадоў таму, у 1861 годзе, нарадзіўся Яўхім Карскі- філёлаг-славіст, фальклярыст, этнограф, аўтар 3-томнай навуковай працы "Беларусы"

### 6 студзеня

Праваслаўная Куцьця

### 7 студзеня

Каляды па праваслаўнаму (юльянскаму календару).

115 гадоў таму, у 1896 годзе, нарадзіўся Яўхім Кіпель– грамадзка-палітычны дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША

### 8 студзеня

100 гадоў таму, у 1911 годзе, нарадзіўся Уладзімір Дудзіцкі – пісьменьнік, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Венесуэле, ЗША.

75 гадоў таму, у 1936 годзе, нарадзіўся Генадзь Кахановскі – гісторык, краязнавец, літаратуразнаўца.

### 12 студзеня

105 гадоў таму, у 1906 годзе, нарадзіўся Язэп Малецкі – дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі, аўтар успамінаў "Пад знакам Пагоні".

70 гадоў таму, у 1941 годзе, нарадзіўся Уладзімір Мулявін – артыст, кампазітар, кіраўнік ансамбля "Песьняры"

### 13 студзеня

420 гадоў з дня атрыманьня ў 1591 годзе свайго гэрба горадам Менскам.

20 гадоў таму, у ноч на 13 студзеня 1991 году савецкія войскі захапілі ў Вільні тэлевежу і шэраг урадавых будынкаў, забілі 14 і паранілі каля 700 чалавек тых, хто аказваў супраціў савецкім уладам. Сярод абаронцаў вежы былі і беларусы.

### 14 студзеня

95 гадоў таму, у 1916 годзе, нарадзіўся Уладзіслаў Чарняўскі – беларускі каталіцкі сьвятар, перакладчык літургічных тэкстаў на беларускую мову.

### 16 студзеня

185 гадоў таму, у 1826 годзе, нарадзіўся Рамуальд Траўгут, адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64 г.г.

45 гадоў таму, у 1966 годзе, ў Таронта быў створаны Каардынацыйны Камітэт беларусаў Канады, які аб'яднаў беларускія арганізацыі ў гэтай краіне.

### 19 студзеня

Вадохрышча.

85 гадоў таму, у 1926 годзе, нарадзіўся Віктар Сянькевіч – грамадзкі дзеяч, гісторык, журналіст, дзеяч эміграцыі ў Гішпаніі, Вялікабрытаніі, ЗША.

### 29 студзеня

470 гадоў таму, у 1541 годзе, нарадзіўся Іпацій Пацей – дзяржаўны, палітычны і царкоўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, пісьменьнік-палеміст.

250 гадоў таму, у 1761 годзе, нарадзіўся Якуб Ясінскі – адзін з кіраўнікоў паўстаньня 1863-64 г.г.

## Ахвяраваньні

Наша першае да юбілею ахвяраваньне мы атрымалі ад дачкі першага рэдактара газэты Лявона Галяка сп. Ганны Галяк (Agonis), якая даслала нам 200 дал. Дзякуем сп. Ганьне за ахвяраваньне і выказанае ёю жаданьне і надалей быць падпісчыкам газэты.

## Шаноўныя сябры!

Газэта "Беларус" разам з вамі ўступае ў новы 2011 год. Спадзяемся, што і надалей вы захочаце быць нашымі чытачамі, а можа і далучыце да іх ліку новых падпісчыкаў. Запрашаем вас і вашых сяброў замовіць газэту на 2011 год.

Кошт падпіскі на год– 50 даляраў разам з дасылкаю.

Чакаем таксама вашых іншых ахвяраваньняў на выданьне газэты.

"Беларус" патрабуе фінансавай падтрымкі, каб жыць далей, каб ісьці ў новае сёмае дзесяцігоддзе. Хто ж яе падтрымае, акрамя нас - беларусаў? Мусім і надалей мець і выдаваць на сучасным узроўні свой друкаваны орган, які лучыць нас на чужыне ў адзіную супольнасьць.

Вы можаце быць не толькі чытачамі, але і аўтарамі публікацыяў, інфармацый пра мяйсцовае беларускае жыцьцё ці аб'яваў на розныя тэмы. **Дасылайце інфармацыі для друку на паштовы альбо электронны адрас Рэдацыі** і мы будзем радыя публікаваць іх.

**Грашовы чэкі патрэбна выпісваць на імя: *BIELARUS newspaper*, дасылаць на адрас: PO BOX 1958, New York, NY 10025** (адрасат не указваць)

*Рэдакцыйная калегія*

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*

**Склад Рэдакцыі:**

Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)

Андрусь Падлескі – адказны за кампутарную вёрстку

Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)

Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com

Валеры Дворнік - адказны за друк ў тыпаграфіі

Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**

Паштовы адрас:

***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**

*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*